ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

ЛіМ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

18 лютага 1994 г. № 7 (3729) Кошт 50 руб.

## ТЛЕЕ АГЕНЬЧЫК НАДЗЕІ...

***Міхась ПЯНКРАТ: «Зазірнеш у нашу заблытаную гісторыю і жахаешся: ніколі беларускі народ не жыў па-людску. У крыві, поце і ланцугах, цярпліва і гераічна змагаўся і цяпер яшчэ змагаецца за сваё, Богам дадзенае права людзьмі звацца... Калі ж мы, нарэшце, будзем жыць на сваёй роднай зямельцы вольна і шчасліва?»***

4

## ЗАБІЦЬ, КАБ МАХНУЦЬ НА ПОЎДЗЕНЬ



***Гутарка М. ЗАМСКАГА з першым намеснікам Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь У. КАНДРАЦЬЕВЫМ аб праблемах барацьбы з дзіцячай злачыннасцю.***

5, 12

## ЗАЦЕМКІ З ЛЕВАЙ КІШЭНІ

***Леанід ГАЛУБОВІЧ: «Я думаю, што я жыву...»***

9—11

# ЖАБРАЦТВА — НЕ НЕПАГАДЗЬ, У ХАЦЕ НЕ ПЕРАСЕДЗІШ




Ужо ўвечары 15 лютага тэлебачанне і радыё з бязмернай радасцю паведамлялі, што палітычны страйк не адбыўся, заводы не спыніліся, а колькасць мітынгуючых у Мінску не перавышала некалькіх тысяч, а ў абласных і раённых цэнтрах і таго меней — дзе на вуліцы выйшла некалькі соцень, дзе некалькі дзесяткаў чалавек. Урад уздыхнуў з палёгкай, назаўтра ўслед за радыё і тэлебачаннем урадавую радасць данесла да кожнай беларускай хаты падначаленая ўраду прэса.

Сцвярджаць, што страйку не было,— гэта ігнараваць факты. 15 студзеня спынілі працу шэраг заводаў і асобныя цэхі заводаў-гігантаў, былі людзі на плошчы Незалежнасці /хай бы камуністы альбо «славяне» паспрабавалі сабраць такі мітынг/, было шэсце па праспекце Скарыны ад Дома ўрада да Вярхоўнага Савета. М. Грыб, які раней і слухаць не хацеў ні пра якія сустрэчы з Радай страйкамаў, быў вымушаны прыняць прадстаўнікоў рабочых і выслухаць іх патрабаванні. Прасцей кажучы, быў сур'ёзны прэцэдэнт грамадскага непадпарадкавання.

*(Працяг на стар. 2)*



# ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***«Welcome, Belarus!» — гэтыя словы пачулі мільёны тэлегледачоў ва ўсім свеце. Прагучалі яны ў Лілехамеры, калі на ўрачыстым адкрыцці Алімпіяды ля трыбун праходзіла пад бел-чырвона-белым сцягам зборная каманда Беларусі.***

***Маленькая Нарвегія, якая яшчэ на пачатку стагоддзя была правінцыяй Шведскага каралеўства, дэманструе ўсяму свету, чаго можа дасягнуць краіна, якая мае незалежнасць, на што здольны народ, які мае гонар. Нам, беларусам, варта павучыцца ў нарвежцаў самапавазе і патрыятызму. Тады і мы калі-небудзь атрымаем права сказаць: «Welcome, Europe!»***

### НАВІНА ТЫДНЯ

Згодна з паведамленнем Белінфарма, Старшыня Савета Міністраў Беларусі В. Кебіч запланаваў на другую палову года візіт у Злучаныя Штаты Амерыкі. Падрыхтоўка да візіту пачалася.

### ЗАГАЛОВАК ТЫДНЯ

«Парламент N 6» /«Культура», 9—16 лютага/.

### СКАНДАЛ ТЫДНЯ

12 лютага ў тэлепраграме «Крок» журналіст С. Плыткевіч заявіў, што Міністэрства абароны гатова скарыстаць супраць бастуючых рабочых войскі спецыяльнага прызначэння. А днём пазней у «Панараме» міністр абароны П. Казлоўскі абверг гэту інфармацыю. А потым і афіцэр, ад якога інфармацыя нібыта паступіла С. Плыткевічу, сказаў, што нічога такога нікому не гаварыў. Давялося журналісту прасіць у міністра прабачэння.

Як гавораць у такіх выпадках, інцыдэнт вычарпаны. Шкада, што гэтага не скажаш пра іншыя інцыдэнты. Грамадства дагэтуль не атрымала ад урада ўцямнага тлумачэння аб падзеях 9 лістапада і 20 студзеня. Так і незразумела, хто і галоўнае — навошта выводзіў на мінскія вуліцы войскі.

### НЕПРЫЕМНАСЦЬ ТЫДНЯ

У сталіцы — эпідэмія грыпу. Кожны дзень грып і іншыя вострыя рэспіраторныя хваробы ўкладваюць у ложак больш за пяць тысяч чалавек. Чвэрць хворых — дзеці.

Медыкі раяць не пераахалоджвацца /гэта ў нашых не надта абагрэтых кватэрах/, болей ужываць багатых на вітаміны гародніны і садавіны /гэта пры нашых заробках/.

### СХОД ТЫДНЯ

Новы Старшыня Вярхоўнага Савета М. Грыб 12 лютага браў удзел у сходзе калгаса імя «жалезнага Фелікса» раёна таго ж імя. Выступаючы перад калгаснікамі, спадар Грыб выказаў думку, што не будзе ў нашай дзяржаве ладу, пакуль не будзе ў ёй прэзідэнта. Яго можна абраць ужо ў чэрвені, а праз тры месяцы пры станоўчых /?/ выніках можна правесці і выбары Вярхоўнага Савета. Прэзідэнт сфармуе ўрад, а новы Вярхоўны Савет яго зацвердзіць. М. Грыб не выключае магчымасці абрання прэзідэнта непасрэдна на сесіі дэпутатамі Вярхоўнага Савета.

А яшчэ М. Грыб гаварыў у той дзень аб «перавагах» сацыялістычнага ладу над капіталістычным.

### КРЫМІНАЛ ТЫДНЯ

Гомельская мытня сарвала спробу вывазу за межы Беларусі васьмі аўтамашын «Урал». Злачынцы збіраліся «партызанскімі сцежкамі» перагнаць грузавікі ў Расію /з воінскай часці, размешчанай на ўскраіне Гомеля/.

### НАВАСЕЛЛЕ ТЫДНЯ

У Налібоцкай пушчы пасяліліся першыя чатыры зубры. У бліжэйшыя дні сюды пераселяцца яшчэ дзесяць рэліктавых звяроў.

### «ПЛЮРАЛІЗМ» ТЫДНЯ

Прэзідыум Вярхоўнага Савета — услед за Расіяй, дзе 23 лютага — Дзень расійскай арміі, пастанавіў лічыць гэты дзень святам і для беларускага войска. Значыць, у наступную сераду, у дзень пяцідзесяцігадовага юбілею антыбальшавіцкай Беларускай краёвай абароны /утворана па рашэнні гаўляйтэра Готберга якраз 23 лютага 1944 года/, у мінскім небе будзе феерверк, ветэраны ў гэты дзень вып'юць чарку. За што?

### «ЮБІЛЕЙ» ТЫДНЯ

15 лютага 1989 года савецкія войскі пакінулі зямлю Афганістана. Скончылася каланіяльная вайна, якая забрала жыцці каля тысячы беларускіх хлопцаў. У гэты дзень прайшлі сходы «афганцаў», багаслужбы, іншыя ўрачыста-жалобныя імпрэзы. Ва ўсім гэтым насцярожвае адно: імкненне тых, хто пры ўладзе, пераглядзець прычыны і вынікі афганскай авантуры, надаць станоўчы сэнс скампраметаванаму разуменню «воин-интернационалист», скарыстаць настальгію па вайсковай маладосці на карысць ідэі рэанімацыі СССР.

### СПАЛОХ ТЫДНЯ

Сродкі масавай інфармацыі паведамлялі аб спыненні спачатку першага, а потым і другога энергаблока Ігналінскай АЭС, што ў Жамойці на мяжы з Беларуссю. А вось аналагічная навіна са Смаленскай АЭС. Там на мінулым тыдні быў пашкоджаны трансфарматар току і адбылося ўзгаранне масла. Пажар быў хутка ліквідаваны. Сцвярджаецца, што небяспека радыеактыўнага заражэння адсутнічае. Хацелася б верыць, што так яно і ёсць.

### ПУБЛІКАЦЫЯ ТЫДНЯ

У «Народнай газеце» за 16 лютага надрукаваны вялікі артыкул доктара гістарычных навук, прафесара, начальніка кафедры тэорыі права і гісторыі Акадэміі міліцыі МУС Беларусі А. Вішнеўскага і ягонага намесніка, кандыдата гістарычных навук, дацэнта М. Гарбаткі «Ці патрэбна Беларусі прэзідэнцкая форма праўлення?» У ёй аўтары, прааналізаваўшы гісторыю беларускай дзяржаўнасці, прыходзяць да высновы, што найбольш прымальнай формай кіравання на Беларусі з'яўляецца парламенцкая рэспубліка.

Аўтары папярэджваюць, што спроба ўсталявання прэзідэнцтва на Беларусі можа прывесці да дыктатуры, «што пэўныя сілы пад выглядам прэзідэнцтва жадаюць рэаніміраваць, вярнуць суперцэнтралізаваную, пазбаўленую кантролю форму ажыццяўлення ўлады».

### ПАГРОЗА ТЫДНЯ

16 лютага па тэлебачанні выступіў прэс-сакратар прэм'ер-міністра У. Замяталін. Ён выказаў незадавальненне тым, як «Астанкіна» пракаментавала падзеі 15 студзеня на Беларусі. Спадар Замяталін даў зразумець, што ў бліжэйшы час урад мяркуе правесці сур'ёзную разборку з замежнымі карэспандэнтамі, якія маюць сваю думку адносна падзей на Беларусі. Акрэдытацыю атрымаюць толькі тыя, хто будзе ўлічваць у сваіх карэспандэнцыях меркаванне... Каго? Прэс-сакратара? Міжволі згадваюцца нядаўнія словы прэм'ер-міністра: «Мы будем командовать средствами массовой информации». Дык што, можам сказаць сёння — «процесс пошел»?

### ЦЫТАТА ТЫДНЯ

«Если под шум разговоров о «воссоединении» братских народов отойдет на второй план настоящее реформирование правительства, уход с политической арены изжившего себя /о чем систематически говорят депутаты всех групп и фракций/ Верховного Совета, если те, кто сегодня определяет курс, целиком и полностью вверят нас В. Черномырдину и Б. Ельцину, полагаясь исключительно на их милосердие и доброту, — то сегодняшняя победа /гаворка ідзе пра магчымую перамогу лініі ўрада Беларусі на «аб'яднанне» грашовых сістэм дзвюх краін. — «ЛіМ»/ совсем скоро станет пирровой. И тогда не надо будет никого звать и агитировать. Толпы будут собираться и организовываться стихийно, с энтузиазмом откликаясь на любой, самый абсурдный и зловещий призыв». /П. Якубович. «Знает ли площадь истину?». «Народная газета», 16 лютага/.

# ЖАБРАЦТВА — НЕ НЕПАГАДЗЬ, У ХАЦЕ НЕ ПЕРАСЕДЗІШ

*(Пачатак на стар. 1)*

Урад паспяшаўся абвясціць малую /адносна агульнай лічбы працуючых/ колькасць удзельнікаў страйку сведчаннем падтрымкі народам лініі В. Кебіча і непапулярнасці ў народзе ідэй парламенцкай апазіцыі. Але зноў жа — гэта спроба выдаць жаданае за існае.

Сёння на Беларусі той, хто па закліку страйкама спыняе працу і выходзіць на пляц з антыўрадавым лозунгам, моцна рызыкуе. Гэта ў дэмакратычных краінах, дзе страйк — звычайная з'ява, рабочы можа быць упэўнены, што ягоная сацыяльная актыўнасць не будзе разглядацца з пазіцый крымінальнага кодэкса. У нас інакш. Сам факт, што заявы Рады страйкамаў даследуе КДБ «на предмет» выяўлення ў іх элементаў дзяржаўнага злачынства, пэўным чынам ціснуў на свядомасць рабочых. Кіраўніцтва заводаў вельмі празрыста намякала патэнцыяльным забастоўшчыкам, што беспрацоўе — рэальнасць нашага жыцця, і той, хто мае намер бунтаваць, будзе звольнены першым. Тым больш рабочы ведае: афіцыйны прафсаюз яго не абароніць, а незалежны недастаткова моцны, каб абараніць.

Як бы ні раслі цэны, але ці не ў кожнага з нас з восені запасены мех бульбы, а значыць, сяк-так можна перабіцца. Не ўсю яшчэ бульбу з'елі — і гэта таксама прычына адноснай малалікасці ўдзельнікаў палітычнага страйку.

І, ці не галоўнае — менталітэт, устойлівыя звычкі мяняюцца не за адзін дзень. Людзі ўсё яшчэ спадзяюцца, што нехта за іх нешта зробіць, і, як казалі пры «бацьку Сталіне», «жить станем лучше, жить станем веселей». Яны не супраць, каб нехта скінуў урад і распусціў Вярхоўны Савет, але самі не хацелі б рызыкаваць дзеля гэтага стратай таго, што маюць /хоць, па крытэрыях цывілізаванага свету, большасць насельніцтва Беларусі — жабракі/.

На працягу тыдня, што папярэднічаў страйку, перад тэлегледачамі, па радыё, у прэсе выступілі са сваімі меркаваннямі адносна непатрэбнасці і нават шкоднасці запланаванай акцыі ці не ўсе больш-менш заметныя ўрадавыя чыноўнікі. «Агітбрыгады» Саўміна раз'ехаліся па ўсёй Беларусі, і там, у правінцыі, ладзілі сходкі, на якіх «выкрывалі» забастоўшчыкаў як ворагаў Беларускай дзяржавы.

Кульмінацыяй гэтай, як мне здаецца, беспрэцэдэнтнай кампаніі было тэлешоу самога спадара Кебіча 13 лютага. Прэм'ер у чарговы раз абяцаў. Шэраг палажэнняў ягонага выступлення былі запазычаны няйнакш з артыкула З. Пазняка «О русском империализме и его опасности». Скажам, услед за Пазняком Кебіч гаворыць пра неабходнасць барацьбы са злачыннасцю, пра сацыяльную абарону пенсіянераў, пра эканамічную рэформу і гэтак далей.

Зразумела, што для вырашэння існуючых праблем лідэр апазіцыі і прэм'ер маюць розныя праграмы. Так, найгалоўнейшым сродкам навядзення парадку ў дзяржаве В. Кебіч бачыць наданне надзвычайных паўнамоцтваў сілавым міністэрствам, папярэдне падпарадкаваўшы КДБ Саўміну. Фактычна гэта шлях да дыктатуры. З. Пазняк жа, як памятаеце, лічыць асноўнай умовай паспяховай барацьбы са злачыннасцю роўнасць усіх перад законам /у тым ліку і дзяржаўных чыноўнікаў, з ведама і блаславення якіх часта дзеецца «беспредел»/.

В. Кебіч лічыць, што ў сацыяльнай абароне маюць патрэбу не тыя, хто працуе і атрымлівае «прыстойную» зарплату /хто ў нас ва ўмовах інфляцыі і падзення жыццёвага ўзроўню вызначаў межы гэтай «прыстойнасці»?/, а пенсіянеры і «малоимущие». Гэта значыць, перакласці грошы з адной кішэні ў другую, недаплаціць таму, хто працуе, і даць пенсіянеру. На думку З. Пазняка, пенсійны фонд трэба сфармаваць за кошт продажу часткі дзяржаўнай маёмасці.

Пра эканамічную рэформу В. Кебіч сказаў наступнае: «Мы дошли до пика кризиса, а потом будет прямая линия». Гэта ў якім сэнсе? Крызіс набудзе перманентны, пастаянны характар? Дарэчы, калі на кардыяграме прамая лінія змяняе імпульсіўную, гэта азначае, што хворы памёр. Ці не такі лёс прадракае нам прэм'ер-міністр?

Гэта інфармацыя для роздуму тым, хто 15 лютага замест таго, каб стаць удзельнікам страйка, вырашыў быць гледачом. Палітычны страйк працягваецца, далучыцца да яго можа кожны. У хаце можна перасядзець кепскае надвор'е, але жабрацтва і голад у хаце не пераседзіш.

22 лютага, у дзень, калі адновіцца праца Вярхоўнага Савета, на плошчу павінны прыйсці людзі...

**Пётра ВАСІЛЁЎСКІ**

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*



# І АПОШНЯЯ КАРТА — АДКРЫТАЯ

Найгалоўнае, што занепакоіла, устрывожыла мяне адразу пасля «путчу» ў беларускім парламенце, — гэта небяспека ўсталявання прэзідэнцкай улады, абрання прэзідэнта рэспублікі не воляю народа, а рашучым націскам дэпутацкай большасці. Іншымі словамі — пагроза «прызначэння» кіраўніка дзяржавы непасрэдна ў харомах былога ЦК КПБ.

І такая пагроза цяпер насоўваецца, бы лавіна з гары! Яна ўжо блізка, пра што адкрыта, хоць, як мне падалося, і не дужа смела, абвясціў на сходзе прафсаюзнага актыву новы Старшыня Вярхоўнага Савета. Зрэшты, адкрыць апошнюю карту ў сваёй палітычнай гульні бальшавікоў змусілі абставіны — аб'яўленая рэспубліканскім страйкамам палітычная стачка і патрабаванне федэратыўных прафсаюзаў, удзельнікаў сходу, прызначыць датэрміновыя выбары ў парламент і абнавіць урад. Так я разумею.

Які ж «выбар» прапануе народу спадар Грыб? Канстытуцыйнае пытанне аб інстытуце прэзідэнцтва будзе вырашаць не рэферэндум, а сесія Вярхоўнага Савета. Станоўчае яго вырашэнне таксама не гарантуе ўсенароднага галасавання — вылучыць кандыдатаў і прагаласуе за іх хутчэй за ўсё сам парламент /як і прадбачыць у «другім варыянце» ягоны спікер, цвёрды прыхільнік прэзідэнцтва/. Гэты, сённяшні парламент, абраны ў асноўным пад дыктоўку паўнаўладнай у тым часе КПБ-КПСС! Няцяжка здагадацца, каго ён узвядзе на высокі пасад: таго, хто за цесную, паўкаланіяльную сувязь з Расіяй; хто супраць істотных рынавых рэформ у эканоміцы; хто за калгасна-саўгаснае гаспадаранне на зямлі; хто супраць свабоды слова, і найперш — слова беларускага, якое, дарэчы, на згаданым сходзе злятала з вуснаў прамоўцаў хіба што ў якасці «прыправы». Такі, іменна такі вобраз будучага прэзідэнта Беларусі вымалёўваецца з выступлення спадара Грыба. Прычым вобраз валявога і ўладнага кіраўніка, які навядзе «дысцыпліну» ў краіне. А з гэтага вынікае, што парламенцкая большасць пастараецца надзяліць яго, свайго абранніка, адпаведнымі канстытуцыйнымі паўнамоцтвамі, бо, як у народзе кажуць, звязанымі рукамі і пугаю не замахнешся.

Вось пры такім прэзідэнце будуць, нарэшце, прызначаны новыя выбары ў Вярхоўны Савет. Калі — невядома, але Савет выберам. І, як здаецца мне, застанёмся з носам. Нягледзячы на запэўніванні лідэраў дэмакратычных партый і рухаў, наўрад ці вялікую перавагу атрымаюць у ім дэпутаты прагрэсіўнага кірунку. Ды нават пры паспяховым зыходзе ці будзе гэты парламент дзеяздольным ва ўмовах моцнай улады прэзідэнта-наменклатуршчыка? Найхутчэй будзе так, як у вершы Якуба Коласа пра цара Мікалая Другога: «Дэпутатам даў па карку, ўзяў і Думу разагнаў». Або так, як у даваеннай Польшчы, калі пан Пілсудскі, карыстаючыся сваімі ўзаконенымі правамі, мог закрываць пасяджэнні сейма адразу пасля... адкрыцця іх. Дый у нашым часе ёсць яскравыя прыклады таго, як званне народнага дэпутата лёгка ператваралася ў «ганаровае», і не болей.

Сумная і ўсё ж цалкам рэальная перспектыва! Не аднаму мне, вядома ж, выразна адкрылася яна. Ды хочацца, каб як мага больш людзей — творчых людзей — адплюшчыла вочы і адаткнула вушы. Як скрушна было чуць і бачыць па тэлевізары артыстычныя пасажы шаноўнай Лілії Давідовіч на тым жа сходзе прафактыву: «В какой переход ведут они /дэмакраты. — **А. К.**/? Никакой у них экономической программы нет...» А шматмільённы люд беларускі слухае гэта, і многія, напэўна, вераць: а і праўда ж — няма. Бо, як і актрыса, не цікавіліся тою праграмаю або не разабраліся ў ёй як след. Навошта, дальбог, гаварыць пра тое, чаго не ведаеш? Ці мала дала нам урокаў мінуўшчына?

Чарговая дыктатура калі яшчэ не «грядеше», дык, прынамсі, ужо вельмі магчымая. І мы павінны супрацьстаяць ёй усе разам, усім народам.

**Алесь КАСКО**

*г. Брэст*

## «РЭКВІЕМ» НА ОПЕРНАЙ СЦЭНЕ

**Апошнім часам ДАВТ дорыць нам прыемныя сюрпрызы. Адным з іх стаўся бенефіс сімфанічнага аркестра ДАВТа Беларусі. І вось — наступны. Да 120-годдзя з дня першага выканання тэатр падрыхтаваў прэм'еру «Рэквіема» Д. Вердзі. Дазволіць сабе паставіць гэты вельмі складаны твор могуць нямногія калектывы, бо ён вымагае тонкага разумення і высокага прафесіяналізму. І тое, што на гэта адважыліся галоўны дырыжор А. Анісімаў і галоўны хормайстар Н. Ламановіч, сведчыць пра новы творчы і прафесійны ўзровень беларускай оперы.**

**Гаворыць маэстра А. Анісімаў:**

**— «Рэквіем» Д. Вердзі мае вялікую выканаўчую гісторыю і традыцыі. Яны зыходзяць непасрэдна да самога Д. Вердзі і да аднаго са славутых дырыжораў А. Тасканіні. Цікавы і значны мастацкі ўклад унеслі дырыжоры Л. Бернстайн, Г. фон Караян, К. Кандрашын. Беларускі тэатр за 60 гадоў гісторыі ўпершыню звярнуўся да гэтага твора. Для нас гэта вялікі гонар і свята. Ёсць два склады салістаў, кожны з іх па-свойму цікавы. Прычым Н. Губская, А. Кеда, М. Грыгорчык упершыню выконваюць гэты твор, а Н. Кастэнка, Н. Галеева, Н. Руднева ўжо выконвалі «Рэквіем» у філармоніі з іншымі калектывамі. Для А. Мельнікава — гэта прэм'ера ў нашым тэатры. Малады і вельмі перспектыўны бас, ён зусім нядаўна прыехаў да нас з Адэсы. Вялікую дапамогу аказалі мае асістэнты — дырыжоры тэатра А. Галанаў ды І. Бухвалаў. Мы задумалі выкананне «Рэквіема» не проста як канцэртнае — яно аформлена мастаком Л. Ганчаровай і мастаком па святле С. Мартынавым. Спадзяёмся, што гэты спектакль-канцэрт увойдзе ў сталы рэпертуар тэатра і палюбіцца публіцы.**

**Хочацца спадзявацца, што прэм'ера «Рэквіема», якая адбылася 29 і 30 студзеня, адкрые многія душы для дабра і любові.**

**Ларыса ВІШНЕЎСКАЯ**

## МЫ НЕ «САЎКІ». ХТО МЫ?

**Такое пытанне задае ў дванаццатым нумары часопіса «Пралеска» галоўны рэдактар А. Сачанка, разважаючы над нашым складаным і супярэчлівым часам. Урэшце, роздумам гэтым прасякнуты ці не ўсе матэрыялы нумара.**

**Змешчаны інтэрв'ю З. Лысенкі з С. Станютай «Жыццё ў сувязі эпох», чарговыя апавяданні У. Арлова па гісторыі Беларусі /гэтым разам «Пётр Першы і Беларусь»/, згадкі А. Марціновіча пра К. Кірэнку «Зімою сцюжнай... прыйшоў у свет», вершы К. Кірэнкі, Р. Барадуліна, Г. Багданавай, В. Вахітавай, развагі С. Белай пра дашкольнае выхаванне ў ЗША «Дыназаўры, або Вялікія гульні для маленькіх дарослых». Р. Туфкрэа аналізуе творчасць М. Багдановіча — «Сустрэча з Максімам Багдановічам». П. Васючэнка /«Скарбонка нечаканых знаходак»/ запрашае ў дзіцячы садок N 1 Жыткавіч.**

## НА ЛІТАРАТУРНАЙ КАРЦЕ

**Беларусі вёска Бараўцы, што знаходзіцца пад Мінскам, займае адметнае месца. Шкада, праўда, што пра гэта далёка не ўсе ведаюць. А між тым, менавіта ў Бараўцах адбыўся літаратурны дэбют Янкі Купалы, тут ён падрыхтаваў свой першы зборнік — знакамітую «Жалейку». У Бараўцах Я. Купала напісаў і паэму «Адвечная песня». Пра ўсё гэта ў кнізе «Тут бачу свой край», выпушчанай выдавецтвам «Полымя», расказвае У. Содаль. Расказвае з любасцю да Я. Купалы і да той зямлі, якая дала яму крылы для творчага ўзлёту.**

## ЗЛЁТ СКАЎТАЎ

**5 лютага адбылося пасяджэнне аргкамітэта па правядзенні Першага нацыянальнага злёту /джэмбары/ Аб'яднання беларускіх скаўтаў. Былі абмеркаваны арганізацыйныя і фінансавыя пытанні.**

**Вырашана правесці джэмбары з 9 па 15 ліпеня, непадалёку ад Ракава. У злёце прымуць удзел таксама скаўты з далёкага і блізкага замежжа.**

**Прадпрыемствы і асобы, якія пажадаюць спансараваць правядзенне злёту, могуць пералічваць свае ахвяраванні на разліковы рахунак N 700322, код 369 у Белпрамбудбанку г. Мінска. Кантактны тэл. /0172/ 33-22-52.**

Набалела!

# ТЛЕЕ АГЕНЬЧЫК НАДЗЕІ...

Зазірнеш у нашу заблытаную гісторыю і жахаешся: ніколі беларускі народ не жыў па-людску. У крыві, поце і ланцугах цярпліва і гераічна змагаўся і цяпер яшчэ змагаецца за сваё, Богам дадзенае права людзьмі звацца... Калі ж мы, нарэшце, будзем жыць на сваёй роднай зямельцы вольна і шчасліва? Да якой пары, да якога часу нам суджана цягнуць бурлацкую лямку нястач і бядоцццяў?

Пытанні, пытанні, пытанні...

Наш незабыўны баян Янка Купала плакаў некалі над гаротным лёсам сваіх беларускіх братоў і сясцёр і таксама пытаўся:

**А хто там ідзе, а хто там ідзе**
**У агромністай такой грамадзе?**

Вядома ж, беларусы ідуць, слаўны наш Іван Дамінікавіч! Але куды яны ідуць? Куды штурхаюць іх авантурныя «дабрадзеі», ілжэдэмакраты, ілжэвыратавальнікі, ілжэпакутнікі, ілжэпрарокі?

Як божы дар мы атрымалі доўгачаканую Свабоду, але не навучыліся ёю карыстацца. Мы дамагліся дзяржаўнага суверэнітэту, а падаем ніц пад ногі мацнейшага. Мы аб'явілі сябе свабоднымі, а засталіся паднявольнымі...

Што ж з намі стала? Якая нячыстая сіла вытравіла з нашых сэрцаў і чалавечую, і нацыянальную годнасць?

У нас ёсць свой нацыянальны сцяг: паласа крыві на белым палатне. У нас ёсць свой нацыянальны герб: воін на белым кані. Шчыт і меч...

І гэта, бадай, усё, чаго мы дамагліся за апошнія пакутлівыя гады разбурэння і анархіі. Здабылі сімвалы, а не рэальнае права на чалавечае жыццё.

Дзе ж паратунак? Ад каго і калі нам яго чакаць?

Яшчэ ўчора з намі жыла, няхай сабе і кволенькая, але надзея, а сёння і яе няма. І застаецца просты люд, як гаворыцца, пры сваіх інтарэсах. Нам ужо не да высокіх ідэалаў свабоды, цяпер мы прагнем кавалка хлеба.

Паслухайце, да прыкладу, крык душы Тацццяны Куксар з вёскі Радуцічы Асіповіцкага раёна:

— Я трыццаць пяць гадоў гнула спіну на рабоце. Выгадавала траіх дзяцей і выпусціла іх у свет. Працавала больш на дзяржаву, чым на сябе. І заслужыла я за сваю добрасумленную працу трыццацітысячную пенсію. Людцы добрыя, дык жа гэта толькі на хлеб. Скажыце ж, як мне жыць?

Гэта прылюдны крык толькі адной гаротнай душы. А іх жа тысячы, такіх безнадзейных тапельцаў, што трымаюцца да пары да часу за тоненькую саломінку так званага пражытачнага мінімуму.

Б'е па жывому сэрцу голас Мікалая Рыгоравіча Фурмана — інваліда Вялікай Айчыннай вайны з вёскі Каражава, што паблізу Гародні. Салдат чэсна і самаахвярна абараняў ад ворага сваю Бацькаўшчыну, сваёй крывёю аплаціў Вялікую Перамогу. А сёння, на схіле гадоў, ён падбівае свой жыццёвы дэбет-крэдыт: усё, што ён набыў за сваё шматпакутнае жыццё, — шаснаццаць баявых узнагарод, дзве чорныя кульцяпкі замест ног і здзеклівы мізэр ветэранскай пенсіі. Заслужаны ветэран сустракае дзень вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў «са слязамі на вачах». Сёння ён не можа купіць нават кавалак хлеба, бо па яго трэба ехаць за дзесяць кіламетраў. А на чым паедзеш? Аўтобус больш не ходзіць — няма бензіну.

Колькі ж такіх інвалідаў і ветэранаў вайны пакутуюць у нашай расхрыстанай дзяржаве? За якія, скажыце, грахі так неміласэрна пакараў іх усемагутны Бог?

Нядаўна прачытаў у штотыднёвіку «Рэспубліка» пісьмо вучня дзевятага класа Сашы Салохі з горада Наваполацка. Кароценькія, спавядальныя радкі не выходзяць з памяці. Павеяла нечым шчымлівабалючым і далёкім. Саша чамусьці нагадаў мне чэхаўскага Ваньку Жукава. Скупа і адрывучата, як у школьным сачыненні, Саша вядзе апавяданку пра сваё жыццё-быццё. У васемнаццацііквадратовай кватэры жывуць бацька, маці, Саша і яго малодшы брат. Маці маладая, ёй толькі трыццаць пяць гадоў. Працавала на заводзе «Хімвалакно», але яе скарацілі і цяпер яна сядзіць дома. Бацька працуе на заводзе нафтаперагонкі, але таксама вось-вось можа быць звольнены: няма нафты і прадпрыемства можа спыніцца. Вельмі хочацца, піша хлопец, наведаць бабулю і дзядулю, якія жывуць у вёсцы, непадалёку ад Вілейкі, але цяпер туды не дабярэшся, трэба на паездку сорак тысяч, а дзе іх узяць?

З усіх куткоў нашай Беларусі чуюцца галасы болю і смутку.

Камісія Вярхоўнага Савета пад старшынствам народнага дэпутата Аляксандра Лукашэнкі толькі крышачку прыўзняла заслону над тым, чым займаюцца «дабрадзеі» і «ратавальнікі» народа. Аж жахнулася ўся Беларусь. Працоўны люд трасецца над нішчымным кавалкам хлеба, а высокачыноўныя казнакрады і марнатраўцы шалеюць ад раскошы. Будуюць для сябе і сваіх нашчадкаў шыкоўныя кватэры і дачы, набываюць аўтамабілі прэстыжных замежных марак, хаваюць нарабаваныя мільёны ў надзейных банках. Названы канкрэтныя факты, прозвішчы, даты...

Але гэта толькі маленькая вяршынька агромністага злачыннага айсберга. Крадуць і рабуюць свой народ не толькі ў вярхах, але і па ўсёй дзяржаўнай вертыкалі — зверху да самых нізоў.

А. Лукашэнка стаў сёння як бы нацыянальным героем, як бы святым мучанікам за народную справу, які, бачыце, не збаяўся замахнуцца на вышэйшую чыноўнадзяржаўную эліту. «Героя» завальваюць удзячнымі пісьмамі.

Святая наша наіўнасць! Камісія народнага дэпутата Аляксандра Лукашэнкі свядома працерабіла дарогу наменклатурным генералам у Вярхоўным Савеце да запаветнага бальшавіцкага адзінаўладдзя. Яна адыграла ролю каталізатара, які паскорыў «ціхую» рэвалюцыю. І толькі.

А як жа, запытаецеся, будзе з выкрытымі хапугамі і марнатраўцамі з высокіх дзяржаўных колаў?

А ніяк! Дзе вы чулі ці бачылі, каб злодзей хапаў сам сябе за каўнер і валок у праведны суд для законнага пакарання? Самі кралі, самі сябе і апраўдаюць. «Прымуць да ведама», як гэта бывала не адзін раз у падобных выпадках.

Пракамуністычная большасць у беларускім парламенце заўсёды спасылаецца на волю народа. Але спытайце, якія адносіны яна да народа мае? Яна, гэтая большасць, учора быццам бы пагадзілася на датэрміновыя выбары ў Вярхоўны Савет, а сёння ад сваіх жа слоў адмаўляецца. Учора яна ўхваліла беларускую нацыянальную сімволіку, а сёння зноў прагне да сярпа і молата. Учора яна прызнала беларускую мову, а сёння пагарджае ёю...

Цяпер у нашага Вярхоўнага Савета — новы Галава. Але спадзяванкі на лепшае як не было, так і няма. Рэспубліка поўніцца не толькі галасамі жальбы і спагады, але і рашучымі галасамі пратэсту.

Сапраўды дэмакратычныя партыі і рухі, калектывы і аб'яднанні, свабодныя і незалежныя прафсаюзы патрабуюць неадкладнай адстаўкі Савета Міністраў, прызначэння датэрміновых выбараў у Вярхоўны Савет, стварэння часовага кааліцыйнага ўрада. Рабочы люд гатовы вынесці свой пратэст на гарадскія плошчы і вуліцы.

Палітычная напружанасць у грамадстве дасягае крытычнай масы. Наш Вярхоўны Савет і Савет Міністраў самі сябе заганяюць у нерат, але працягваюць весці адчайную барацьбу за свае крэслы.

Але не за імі будучыня. Вера ў гэта не дае згаснуць слабаму агеньчыку надзеі, што яшчэ тлее ў людскіх сэрцах. Мы хочам чалавечага жыцця на нашай шматпакутнай зямлі. Дапамажы нам, Божа!

**Міхась ПЯНКРАТ**

Пошта

# ЧАГО ВАМ ХОЧАЦЦА, ПАНОВЕ?

5 студзеня г.г. прачытала я ў газеце «Советская Белоруссия» артыкул пад назвай «Исторические реалии и современные мифы», які напісаў невядомы мне асабіста мінскі «преподаватель» /чаго — таксама невядома/ Леанід Крэйдзік. Прызнацца, адразу пасля прачытання гэтага артыкула ў мяне зашчыміла на сэрцы ад крыўды не толькі на аўтара, але і на газету, якая прадаставіла слова чалавеку, які не ведае ні нашай гісторыі, ні нашай літаратуры, ні звычаяў і ў той жа час бярэцца асуджаць тое, што здабыта вякамі, а, па сутнасці, паклёпнічае на ўвесь беларускі народ.

Аўтар робіць спробу абвергнуць усе новыя матэрыялы па гісторыі Беларусі, якія з'явіліся ў апошнія часы, у прыватнасці, «100 пытанняў і адказаў па гісторыі Беларусі», якія выпушчаны асобнай кнігай і з'яўляюцца вельмі каштоўным дапаможнікам для школьнікаў, студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў і саміх выкладчыкаў.

Л. Крэйдзік даходзіць да абсурду, адмаўляючы, напрыклад, тое, што беларускі народ як нацыя, а таксама беларуская мова — адны з самых старажытных, развіваліся сваім самастойным шляхам, а не з'яўляліся, як ён кажа, «русским диалектом польского...» У гэтым ён трымаецца старой канцэпцыі, якую спавядалі некаторыя савецкія гісторыкі-фальсіфікатары, накшталт Лаўрэнція Абэцэдарскага, які сцвярджаў, нібыта яшчэ здаўна на Вялікай Русі «произошло диалектологическое разделение русского народа на три ветви: западнорусскую с западнорусским или белорусским наречием, как это писалось в научной литературе до 1917 года, юго-западнорусскую с малорусским или украинским наречием и великорусскую с русским языком».

Нам, сапраўдным беларусам, якія добра ведаюць сваю гісторыю і мову, да абурэння крыўдна слухаць такое.

Нічога, акрамя абурэння, не можа выклікаць і тое, што піша Л. Крэйдзік пра нашага неўміручага, праслаўленага ў вяках першадрукара і асветніка Францішка Скарыну. Мову, на якой той пісаў, друкаваў і выдаваў свае кнігі, Крэйдзік называе таксама «русским диалектом». Ён так і сцвярджае: «Сравнивая язык Скорины с русским языком и белорусским, приходится констатировать, что он ближе русскому языку, нежели белорусскому».

Ці ж не ясна з прыведзеных цытат, што гэта спроба ўвесці ў зман тых, хто не ведае нашай сапраўднай гісторыі, хто не чытаў твораў вялікага асветніка і гуманіста, беларускага першадрукара, які сотні гадоў таму «як доктар лекарскіх навук сачыў з высокай вежы зоры» /выбачайце, можа, за недакладны пераказ радкоў з верша Максіма Багдановіча/. Ці ж не па-беларуску пісаў Францішак Скарына ў сваёй кнізе «Юдзіф» аб вялікай любві да чалавека, да тае зямлі, на якой нарадзіўся і ўзрос з ласкі Божай? Як жа пасля гэтага можна сцвярджаць, што наш доктар Скарына быў рускім, не меў свайго нацыянальнага твару, пісаў на якімсьці «наречии»?

А пра тое, што на працягу многіх стагоддзяў існавала самастойная, незалежная беларуская дзяржава — Вялікае Беларуска-Літоўскае княства са сваім Статутам і мовай, — у артыкуле Крэйдзіка ні слова. На якога чытача разлічвалі аўтар артыкула і рэдакцыя, якая яго апублікавала, няцяжка здагадацца.

Я працую выкладчыцай беларускай мовы і літаратуры ў Мінскім педтэхнікуме. Заўсёды радуюся з'яўленню ў нашай літаратуры, гістарыяграфіі новых твораў, даследаванняў такіх аўтараў, як Мікола Ермаловіч, Уладзімір Арлоў, Леанід Лыч і многія іншыя. Чытаю і перачытваю даследаванні па гісторыі Беларусі, яе літаратуры і культуры Ластоўскага, Смоліча, Тарашкевіча і іншых беларускіх дзеячаў, творчасць якіх забаранялася ў савецкія часы. Відаць па ўсім, гэтых твораў ніколі не чытаў ні аўтар артыкула Крэйдзік, ні той, хто яго надрукаваў. Дарэчы, падобная публікацыя — не першая ў газеце «Советская Белоруссия», якая ўжо пэўны час спрабуе дэзарыентаваць сваіх чытачоў ва ўсім, што тычыцца адраджэння дзяржаўнасці, беларускай культуры. Дарэчы тут прывесці неўміручыя радкі вялікага Янкі Купалы, напісаныя дзесяткі гадоў таму назад:

**Чаго вам хочацца, панове,**
**Які вас выклікаў прымус**
**Забіць трывогу аб той мове,**
**Якой азваўся беларус?**

**Ева СЯМЁНАВА**

*г. Мінск*

# ЗАБІЦЬ, КАБ МАХНУЦЬ НА ПОЎДЗЕНЬ...

АБ ПРАБЛЕМАХ БАРАЦЬБЫ З ДЗІЦЯЧАЙ ЗЛАЧЫННАСЦЮ
КАРЭСПАНДЭНТ «ЛіМа» М. ЗАМСКІ ГУТАРЫЦЬ З ПЕРШЫМ НАМЕСНІКАМ ГЕНЕРАЛЬНАГА ПРАКУРОРА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ У. КАНДРАЦЬЕВЫМ.



*Фота В.СТРАЛКОЎСКАГА*

**— За час сваёй журналісцкай практыкі мне неаднойчы даводзілася бачыць на лаве падсудных забойцаў. Сярод іх былі розныя людзі — і такія, што сталі на шлях злачынства, так сказаць, на бытавой глебе, а працей кажучы, па п'янцы, і сапраўдныя галаварэзы, для якіх забіць чалавека — што для некага муху. Я вось зараз размаўляю з вамі, Уладзімір Кандратавіч, і спрабую аднавіць у памяці іх твары, спрабую — і не магу... За выключэннем аднаго выпадку, які надарыўся, дарэчы, даўно, гадоў дваццаць назад. Аблічны тых забойцаў я памятаю, нібы бачыў іх учора. Думаю, што не сцерліся яны з маёй памяці таму, што гэта былі дзеці. Так, дзеці, хоць, ведаю, слова гэтае ў юрыдычнай тэрміналогіі ў такім кантэксце адсутнічае, тут яно заменена безаблічным «непаўналетнія» /г. зн. тыя, каму на момант здзяйснення злачынства не споўнілася 18 гадоў/. Так што, бывае, зацятаму забойцу да спаўнення 18 гадоў засталося дзесяць дзён, і ад смяротнага пакарання ён ратуецца тым, што падпадае пад графу «непаўналетні», хоць у гэтага «непаўналетняга», здараецца, ёсць ужо свае дзеці. Але ў выпадку, які мне прыгадаўся, дзеючымі асобамі былі дзеці ў агульнапрынятым значэнні гэтага слова. А калі больш дакладна, дык трое шасцікласнікаў адной з пухавіцкіх школ. Фабула злачынства была наступнай: адным зімовым днём яны, прыехаўшы ў Мінск, на Прывакзальнай плошчы нанялі таксіста, каб ён адвёз іх у Пухавічы, і па дарозе забілі яго, стрэліўшы з задняга сядзення ў патыліцу з прыхопленай адным з падшыванцаў бацькавай паляўнічай стрэльбы.**

**У час суда па гэтай справе мяне ўразіў расказ падлеткаў аб тым, як старанна рыхтаваліся яны да забойства, загадзя прадумвалі ўсе дэталі, каб схаваць канцы ў ваду. Іншая справа, што многае ў іх задуме выглядала па-дзіцячы наіўным. Адказваючы на пытанне суддзі, што яны збіраліся зрабіць з машынай пасля таго, як заб'юць вадзіцеля, з дзіцячай непасрэднасцю растлумачылі — узялі б знаёмых дзяўчат і «махнулі» б з імі на поўдзень, у Сочы.**

**Рыхтуючы судовы нарыс па той справе, я паехаў у Пухавічы, пабыў у сем'ях злачынцаў, у школе, дзе яны вучыліся, імкнучыся намацаць хоць нейкую нітачку, якая б вяла да разгадкі такога феномена, як дзіцячае злачынства, а ў дадзеным выпадку злачынства ў крайнім яго праяўленні — забойства. Але зачапіцца не было за што. Двое з той тройкі, па водгуках настаўнікаў, былі звычайнымі вучнямі, нічым асаблівым не вызначаліся. І толькі трэці характарызаваўся з «адмоўнага» боку — прапускаў урокі. Так і паехаў я з Пухавічаў, па сутнасці не зразумеўшы, дзе яны, вытокі выключнай жорсткасці і агрэсіўнасці тых падлеткаў. І ўвогуле, што штурхае чалавека на жорсткасць? Племянны рудымент, які застаўся з часоў, калі людзям трэба было змагацца за сваё існаванне не на жыццё, а на смерць? Генетычная спадчына?**

— Ці могуць злачынныя схільнасці перадавацца па спадчыне? Чаму ж тады ў зусім прыстойных бацькоў надараюцца дзеці-вылюдкі? Хоць, вядома, я б не стаў адмаўляць, што некаторыя асаблівасці псіхікі чалавека могуць быць запраграмаваны ў яго генетычным кодзе. Але, тым не менш, я не веру, што некаму ад нараджэння наканавана стаць злачынцам, а некаму — «ангелом во плоти». Усё залежыць ад самога чалавека, асяроддзя, у якім ён жыве.

Невыпадкова ж складаны, пераломны час, у які мы зараз жывём, суправаджаецца такім усплёскам злачыннасці, у тым ліку і дзіцячай.

Нядаўна мне трапіла на вочы выказванне акадэміка Вартаняна, дырэктара цэнтра псіхічнага здароўя Акадэміі медыцынскіх навук Расійскай Федэрацыі, якое падалося вельмі цікавым. Тлумачачы асацыяльныя паводзіны некаторых падлеткаў пэўнымі псіхічнымі адхіленнямі, ён бачыць іх прычынную сувязь з тым, як працякала цяжарнасць у маці такога падлетка, калі яна яшчэ насіла яго пад сэрцам. Як тлумачыць акадэмік, у цяжарнай жанчыны, якую кінуў муж /сітуацыя, пагадзіцеся, у нас не рэдкая/, з-за перажытага стрэсу ў арганізме адбываецца глыбокая гарманальная перабудова, якая самым адмоўным чынам уплывае на мозг яшчэ ненароджанага дзіцяці. На думку акадэміка, у будучым у яго мала шанцаў зрабіцца нармальным, паўнацэнным грамадзянінам.

**— Абсалютызаваць гэтыя высновы акадэміка Вартаняна, відаць, нявартa, я ведаю вельмі прыстойных людзей, якіх гадавала адна толькі маці.**

— Абсалютызаваць наогул нічога не трэба. Я прывёў выказванне Вартаняна ў якасці доказу таго, што ў псіхічных адхіленнях некаторай часткі падлеткаў /яны, часам, з'яўляюцца прычынай іх злачынных схільнасцей/ вінавата не генетычная спадчыннасць, а само наша жыццё, амаральнае ў многіх сваіх праявах.

**— Дзіцячая злачыннасць у рэспубліцы сапраўды пагражальна расце?**

— Так. Прывяду некаторыя лічбы. Калі ў 1988 годзе падлеткамі было здзейснена 4635 злачынстваў, дык у 1992 годзе /за 1993-і вынікі яшчэ не падсумаваны/ амаль удвая больш — 8412. Колькасць непаўналетніх злачынцаў павялічылася за гэты час з 4694 да 7742. Узровень злачыннасці ў разліку на тысячу падлеткаў ва ўзросце 14-17 гадоў узрос з 10 да 14,7.

Мабыць, няма.такіх злачынстваў, якія б аказаліся «не па зубах» падлеткам. Гэта і забойствы, і разбойныя нападзенні, і гвалтаванні, і крадзяжы. Вы нагадалі пра дваццацігадовай даўнасці забойства трыма падлеткамі таксіста. Летась у Брэсце адбылося амаль тое ж. Дзейнічалі таксама трое падлеткаў, забілі вадзіцеля прыватнага таксі. Іншымі былі толькі прылады забойства. У першым выпадку — стрэльба, у другім — шнурок-удаўка. Факты забойстваў, здзейсненых непаўналетнімі злачынцамі, у аператыўных зводках з'яўляюцца ўсё часцей.

Але асабліва павялічылася колькасць злачынстваў, звязаных з крадзяжом дзяржаўнай і прыватнай маёмасці. Вось некалькі характэрных прыкладаў. У чэрвені 1993 года непаўналетні Р. Лапо з Барысава з мэтай крадзяжу адрэзаў на камбінаце прыкладнога мастацтва кавалак габелена, ад чаго дзяржаве была нанесена страта на 8 мільёнаў рублёў. У верасні таго ж года група падлеткаў вынесла з аўтапарка ў Ленінскім раёне сталіцы электрадэталяў коштам амаль 5 мільёнаў рублёў. Трэба сказаць, што наогул крадзяжы ў структуры дзіцячай злачыннасці складаюць 90 працэнтаў.

**— Але ж крадуць не таму, што галодныя, як кралі ў вайну, напрыклад, героі аповесці Анатоля Прыстаўкіна «Ночевала тучка золотая...» Летась мне давялося пабыць у Бабруйскай выхаваўча-працоўнай калоніі, дзе ўтрымліваюцца непаўналетнія правапарушальнікі. Гутарыў з многімі з іх, цікавіўся, што «подвигнуло их на подвиг сей» /большасць мясцовых насельнікаў трапіла сюды менавіта за крадзеж/: голад, нястача? Зусім не! Захацелася, ці бачыце, мець імпартны «відзік», магнітолу, скураную куртку і да т.п.**

— Я тлумачу ўсё гэта няспыннай камерцыялізацыяй грамадства, якое падчас набывае пачварныя формы, што не можа не адбіцца самым адмоўным чынам на неўмацаванай дзіцячай псіхіцы. Чаго вартая тая надакучлівая рэклама «Снікерсаў», «Марсаў», «Баўнці», якія не па кішэні пераважнай колькасці грамадзян! Дайшло да таго, што дзіцячымі вуснамі пачалі рэкламаваць банкі, розныя камерцыйныя ўстановы і да т. п. Паяўляецца на тэлеэкране ледзь не немаўлятка і з гонарам абвяшчае: «Я стаў мільянерам!» Хто-небудзь думае, якія ўсходы можа даць гэтае «насенне», бяздумна высеянае ў душы падлеткаў?

**— Можна зразумець, Уладзімір Кандратавіч, ваша абурэнне. Прапаганда ідэй чыстагана ідзе, безумоўна, на шкоду духоўнасці. Але ёсць тут, мне здаецца, адна «тонкасць». Калі ў заходніх краінах рэкламаванне дарагіх рэчаў, раскошнага жыцця стымулюе ў таго ж падлетка жаданне пайсці працаваць, каб самому на ўсё гэта зарабіць грошай /не пагарджаючы, дарэчы, ніякай працай — ад мыйшчыка посуду ў рэстаране да прыбіральшчыка ў грамадскім туалеце/, дык у нас такая рэклама ў многіх спараджае толькі жаданне — украсці. І гэта ў той час, калі ў галовы савецкіх людзей дзесяцігоддзямі ўбівалі «ісціну», што праца з'яўляецца «справай гонару, доблесці і геройства».**

— Ці мала што ўбівалі ў нашыя галовы!.. Але і даросламу цяжка пераварыць, успрыняць, засвоіць усе навацыі, на якія гэтак багаты наш бурлівы, пераменлівы час. Навацыі не толькі ў палітыцы і эканоміцы, а і ў маралі, культуры, калі пераацэньваюцца каштоўнасці, якімі жыло не адно пакаленне савецкіх людзей. Вы думаеце, усе гэтыя праблемы абыходзяць бокам падрастаючае пакаленне? Ды яно ўсім цікавіцца, на ўсё пасвойму рэагуе. Нават на разборкі ў нашым Вярхоўным Савеце, узаемныя абвінавачванні ў карупцыі, раскраданні дзяржаўнай маёмасці і да т. п. Глядзіць на ўсё гэта каторы падлетак і робіць высновы — калі дарослым усё гэта дазволена, дык чаму я павінен недзе ўкалваць за капейкі? Ды я на фарцоўцы, абмене валюты, спекуляцыі зараблю болей за акадэміка! І вось вынік: злачыннасць сярод падлеткаў, якія нідзе не вучацца і не працуюць, за апошнія тры гады вырасла ўтрая. Адзначу і такі факт — злачыннасць з кожным годам «маладзее». Цяпер у «рукі» праваахоўных органаў усё часцей трапляюць правапарушальнікі-малалеткі 14-15-гадовага ўзросту.

**— Прастытуцыя таксама маладзее? У расійскай прэсе неаднойчы пісалася аб прастытутках-малалетках недзе 9-10-гадовага ўзросту, аб прытонах, куды іх пастаўляюць суцэнёры.**

— У нас такіх фактаў не выяўлена, хоць прастытуцыя, і гэта не сакрэт, — працвітае. А прастытуцыя і злачыннасць, як вядома, пагранічныя «краіны». Але вы, мабыць, ведаеце, што існуючы крымінальны кодэкс не прадугледжвае адказнасці за такі род заняткаў, вядома, калі прадстаўніца гэтай самай старажытнай прафесіі не абчысціць, ці неяк іншым чынам не «пакрыўдзіць» свайго кліента.

**— Нядаўна я прачытаў у адной з маскоўскіх газет аб падпольных студыях, дзе здымаюцца парнафільмы з удзелам 16-17-гадовых «артыстаў» абодвух полаў. У нас, на Беларусі, такога кіно яшчэ не здымаюць?**

— Такіх фактаў у пракуратуры няма, — калі мець на ўвазе вытворчасць парнафільмаў, ды яшчэ з удзелам падлеткаў. Але ёсць нешта падобнае. Летась органамі пракуратуры было ўзбуджана некалькі крымінальных спраў па фактах парушэння закона аб забароне прапаганды парнаграфіі і насілля ў сродках масавай інфармацыі, а таксама рознымі відамі мастацтва.

**— У многіх заходніх краінах існуе так званая «паліцыя нораваў». Думаю, прыйдзе час, калі і ў нас зразумеюць неабходнасць мець такую службу.**

— Так, да гэтага ідзе...

**— Хацелася б пачуць вашу думку, Уладзімір Кандратавіч, яшчэ аб адной праблеме дзіцячай злачыннасці. Як вядома, большасць правапарушальнікаў здзяйсняюць свае «подзвігі» ў стане алкагольнага ап'янення. Гэта ў дарослых. А ў непаўналетніх?**

— Таксама. Дастаткова сказаць, што зараз у рэспубліцы стаіць на ўліку больш як 800 непаўналетніх хранічных алкаголікаў. У 1992 годзе за п'янства было прыцягнута да адміністрацыйнай адказнасці больш за 12 тысяч падлеткаў, тады як у 1990 годзе іх было амаль на 5 тысяч меней. Колькасць непаўналетніх, якія здзейснілі злачынства ў п'яным выглядзе, толькі ў першым паўгоддзі 1993 года павялічылася ў параўнанні з адпаведным перыядам папярэдняга года на 36 працэнтаў.

**— Відаць, адна з балючых праблем — прафілактыка дзіцячай злачыннасці. Мне даводзілася бываць у інспекцыях па справах непаўналетніх пры райаддзелах міліцыі і ў мяне склалася ўражанне, што ўся работа там зводзіцца да пастаноўкі падлеткаў на ўлік.**

— Вы маеце рацыю. Напрыклад, у Аўстрыі, Англіі, некаторых іншых замежных краінах, я ведаю, існуе спецыяльная служба, якая наглядае за паводзінамі падлеткаў на вуліцы. Уяўляеце? А ў нас менавіта на вуліцу прыпадае пераважная большасць правапарушэнняў, здзейсненых непаўналетнімі.

Барацьба з дзіцячай злачыннасцю патрабуе ўзважанага і навуковага падыходу, але, на жаль, пакуль што нашыя вучоныя, юрысты, псіхолагі, педагогі стаяць у баку ад гэтай справы. Вынікі пракурорскіх праверак сведчаць, што з году ў год паўтараюцца адны і тыя ж памылкі ў арганізацыі прафілактычнай работы сярод непаўналетніх. Спісваюцца тоны паперы ў выглядзе розных прадстаўленняў, інструкцый, папярэджванняў, перасцярог, за якімі не відно канкрэтных падлеткаў з іх праблемамі і цяжкасцямі. Што датычыць інспекцый па справах непаўналетніх пры райаддзелах міліцыі, дык я перадаў бы іх функцыі

*(Працяг на стар. 12)*

## СЕМІНАР САМЫХ ЮНЫХ

паэтаў трэці раз прайшоў у Брэсцкім абласным Цэнтры маладзёжнай творчасці. На яго прыехалі па два-тры вучні амаль з усіх раёнаў вобласці. Яны сустрэліся з Іванам Арабейкам, Алесем Каско, Алесем Разанавым і іншымі пісьменнікамі. Абмяркоўваліся творы пачаткоўцаў, праводзілася літаратурная вечарына.

У. СУХАПАР

## СКАРБЫ РАЙНІСА

БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА У ЛАТВІІ

папулярна-навуковы, падагогічны і літаратурна-грамадзкі штомесячнік




№ 4 (14) Рыга, верасень 1932 № 4 (14)

Серыя «Скарбы сусветнай літаратуры» папоўнілася яшчэ адным томам — «Выбраным» Яніса Райніса. Гэтае імя — асабліваe для беларусаў. 65 гадоў назад, ствараючы ў Латвіі Таварыства па культурным збліжэнні з народамі Усходу, Райніс адзначаў гістарычную блізкасць латышоў і беларусаў, заклікаў да ўзаемаразумення і добрасуседства. У 1926 годзе паэт і грамадскі дзеяч Латвіі наведаў Мінск, Віцебск, выступаў на канферэнцыі па рэформе правапісу, якую праводзіў Інбелкульт, паведаў пра тое, як ён абараняў і абараняе правы беларускай нацыянальнай меншасці ў Латвіі /тэкст гэтай прамовы змешчаны ў «Выбраным»/.

І беларусы не заставаліся ў даўгу перад грамадзянскім подзвігам гэтага самаахвярнага чалавека. У 1930 годзе Я. Дыла выдаў п'есу Я. Райніса «Гірт з Воўчага логу», у 1955-ым — Р. Барадулін пераклаў п'есу «Ветрык, вей!», у 1956-ым — выходзіць у Мінску томік выбранага Я. Райніса, а ў 1988-ым — п'еса «Агонь і ноч» у перакладзе В. Сёмухі. Першымі беларускімі папулярызатарамі творчасці Я. Райніса былі яго сучаснікі і суграмадзяне К. Езавітаў, П. Масальскі /іх асобныя пераклады ёсць у «Выбраным»/, а таксама паэты В. Казлоўская, Я. Воркуль... У апошнім выданні выкарыстаны набыткі перакладчыкаў розных пакаленняў. У алфавітным парадку спіс іх такі: М. Арочка, А. Астапенка, Р. Барадулін, Г. Бураўкін, А. Вольскі, С. Гаўрусёў, Н. Гілевіч, С. Грахоўскі, С. Дзяргай, Х. Жычка, А. Звонак, В. Зуёнак, І. Калеснік, П. Макаль, М. Маляўка, С. Панізнік, П. Панчанка, В. Сёмуха, Я. Сіпакоў, У. Скарынкін. Укладанне кнігі — Мірдзы Абалы. Яна ж — аўтар прадмовы і каментарыяў. Аўтар падрадкоўнікаў на беларускую мову — Ніна Янсанэ.

А праз некаторы час у выдавецтве «Мастацкая літаратура» будзе падрыхтавана кніга «Райніс і Беларусь», куды ўвойдуць успаміны дзеячаў літаратуры і мастацтва Беларусі, навуковыя артыкулы, творы, прысвечаныя нашаму шчыраму сябру — Яну Райнісу.

С. ПАПАР

## ШТО ТАКОЕ ВАРЭЙКА...

Рэспубліканскі цэнтр эстэтычнага выхавання дзяцей парадаваў маленькіх кніжкай Міколы Чарняўскага «Вярэнька». Пад вокладкай зборніка, афармленага, дарэчы, мінскай школьніцай Машай Гарулькай, сабраны скорагаворкі, лічылкі, загадкі, а да ўсяго... задачка і дзве вясёлыя песенькі /музыка Ларысы Сімаковіч/. Сярод твораў — і скорагаворка «Вярэнька і варэйка». Вярэнька — гэта кошык, сплецены з лубу, лазы ці бяросты, а варэйка? Пра гэта можна даведацца, прачытаўшы кніжку М. Чарняўскага.

# «БЕЛАЯ МУЗЫКА БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ»

***«Белая музыка беларускіх паэтаў — спантанны, выключна пачуццёвы мудры аповяд пра чалавека ў людстве і людскім у чалавеку, пра чалавека ў прыродзе і пра прыроду чалавека. Таму яна універсальная і таму, я ўпэўнены, знойдзе шмат прыхільнікаў паміж нашых аматараў паэзіі. Сярод нашых ва ўсякім выпадку, бо вельмі ж шмат лёсавых супадзенняў у гісторыі славянскіх беларускага і нашага народаў, а лёсавыя супадзенні твораць і адпаведны плён у духоўным жыцці. Імі спараджаюцца аналагічныя абрысы агульнага культурнага і літаратурнага працэсу абодвух народаў. Гэтыя падобныя абрысы садзейнічаюць таму, што мы ўспрымаем творчасць беларускіх паэтаў не толькі як эстэтычную інфармацыю аб нейкай замежнай літаратуры, але і як пашырэнне нашай уласнай і тутэйшай духоўнай мазаікі, якая прадстаўляе і тлумачыць менавіта нас саміх», — такімі словамі заканчвае пасляслоўе да «Анталогіі беларускай паэзіі», выдадзенай у Бялградзе, перакладчык Міодраг Сібіновіч.***

Нарэшце сербскі чытач атрымаў магчымасць скласці досыць цэльнае ўяўленне пра беларускую паэзію ад самага яе пачатку і да нашых дзён. Францішак Скарына, Андрэй Рымша, Афанасій Філіповіч, Сімяон Полацкі, Паўлюк Багрым, Уладзіслаў Сыракомля, Вінцэнт Каратынскі, Францішак Багушэвіч, Янка Лучына, Цётка і, зразумела, нашы класікі XX стагоддзя, а таксама паэты-выгнанцы трагічнага лёсу ды пасляваенная генерацыя песняроў — 47 імёнаў, творчых індывідуальнасцей распавядаюць на старонках «Анталогіі» пра тое, як беларускі народ насуперак шматлікім нягодам вякамі падтрымлівае, аберагае святую паходню жыцця на роднай зямлі.

Улічваючы, што прыгожае пісьменства ўпершыню загучала ў такой гістарычнай поліфаніі на сербскахарвацкай мове, вельмі дарэчы, што ўкладальнік «Анталогіі» Іван Чарота на 25 старонках прадмовы /«Спаконная сутнасць беларускай паэзіі»/ не абмяжоўваецца ўласна літаратурнымі праблемамі. Ён, ужо досыць сталы перакладчык з сербскахарвацкай, славенскай моў і літаратуразнаўца, добра знаёмы чытацкай аўдыторыі, якой адрасуецца гэтае выданне. Таму ва ўступным нарысе дакладна раскрыты гісторыка-культурныя моманты, вартыя ўвагі даследчыка, каб падтрымаць, паглыбіць цікавасць, абуджаную самой эстэтычнай з'явай — новым далучэннем паўднёвых славян да беларускага слова. Так, залішне доўга Беларусь амаль цалкам асацыіравалася на Балканах з расейскай вобласцю. Пра адметнасць нашай краіны ведала нешматлікае культурнае асяроддзе /ды і рана пакуль што гаварыць аб сур'ёзных зрухах у гэтым накірунку/. І вось чытач «Анталогіі беларускай паэзіі» атрымаў разнастайную інфармацыю, якая датычыцца і геаграфічнага становішча Беларусі, і яе спрэчнага назову, і нашай беларуска-літоўскай гісторыі, і адносін з Польшчай, Расеяй... Не абмінуў І. Чарота балючыя пытанні нашага грамадскага і літаратурнага быцця: рэпрэсіі 30-х гадоў, вымушаная пасляваенная эміграцыя, лёс Беласточчыны. Сапраўды, укладальнік «Анталогіі» з поўным правам гаворыць, што: «...наша выданне, па сутнасці, першая спроба прадставіць панараму агульнай беларускай паэзіі на грунце чыста літаратурных крытэрыяў, без увагі да «актуальна-палітычных» прынцыпаў, ідэалагічнай канфрантацыі, шматстайных падзелаў».

Тут варта напомніць, што на сербскахарвацкую мову ў розны час ужо перакладаліся творы некаторых беларускіх паэтаў і празаікаў. Яшчэ ў 1928 годзе заграбскае выдавецтва «Забаўная бібліятэка» надрукавала аповесць Я. Коласа «У Палескай глушы» з прадмовай А. Вазнясенскага. Можна прачытаць на сербскахарвацкай мове раман І. Шамякіна «Сэрца на далоні» /1965, пер. Д. Якшыч/, апавяданні Я. Брыля, В. Хомчанкі, Л. Прокшы. У 1980 годзе пабачыў свет зборнік прозы В. Быкава, у які ўвайшлі аповесці «Воўчая зграя», «Сотнікаў», «Дажыць да світання», «Абеліск» /пер. М. Чоліча, уступнае слова І. Шопа/. Працягнула знаёмства з творчасцю нашага пісьменніка аповесць «Знак бяды» ў перакладзе Д. Якшыч. У зборніку «Славянскія рыфмы» /1976/ побач з творамі Б. Пастэрнака, М. Рыльскага, В. Незвала і інш. прагучалі вершы Я. Купалы. Часопіс «Песнік» /1988, N 14/ змясціў творы М. Багдановіча, Н. Мацяш, А. Разанава. Вернага прадстаўніка ў Бялградзе на пачатку 70-х гадоў беларуская паэзія набыла ў асобе паэта, перакладчыка, выдаўца М. Джэркавіча. У 1974 годзе пабачыў свет зборнік паэзіі А. Куляшова «Беларускія бярозы» /пер. Р. Пайковіча і М. Джэркавіча/. Важкім плёнам далейшага прачытання М. Джэркавічам беларускай літаратуры стаў пераклад зборніка паэзіі М. Танка /1986/.

І ўсё ж знаёмства сербскахарвацкага моўнага арэала з беларускай літаратураю носіць пакуль што даволі фрагментарны, эпізадычны характар. Беларускі

*Іван Чарота. Анталогія беларускай паэзіі. Пераклад на сербскахарвацкую і пасляслоўе М. Сібіновіча. Бялград, 1993.*

# «ДАРУЙ НАМ, ГРЭШНЫМ І НЕРАЗУМНЫМ...»

Гаворачы пра гэтую кніжку, цяжка пазбыцца нейкага не да канца зразумелага адчування няёмкасці ці нават віны. Так адчуваеш сябе ў бальніцы, калі пачынаеш радасна даводзіць цяжкахвораму, як добра ён выглядае.

Светлыя фарбы, якімі мы звычайна карыстаемся, гаворачы пра харошую паэзію, робяцца зусім недарэчнымі, ненатуральнымі побач з тымі змрочнымі, цяжкімі колерамі, характэрнымі для кнігі «Зорка Палын».

**Атам**
**Зрабіў Беларусь удавою.**

**А ва ўдавы**
**Не зачыняюцца хлявы,**
**Павыпушчана гавяда.**
**Статак пасвіць бяда.**
**А ва ўдавы**
**Някошаны паплавы**
**І пожні някошаны.**
**Госці запрошаны**
**З ласкі бяды.**
**На дзяды.**

*/Рыгор БАРАДУЛІН, «Жалоба»./*

Раскіданыя ў розныя гады па розных перыядычных выданнях, гэтыя творы заклікалі спыніцца, задумацца і да канца ўсвядоміць, **якая** трагедыя нас напаткала. Але іх разрозненыя галасы часта заглушаліся, драбнелі на фоне паўсядзённых нялёгкіх і, як здавалася, ды і цяпер чамусьці здаецца многім, куды больш важных праблем: абвал эканомікі, рост злачыннасці... Аднак, зараз, сабраныя разам, яны загучалі куды мацней, балючай і — страшней. Тут, пад чорнай вокладкай, яны стварылі трагічны, змрочны свет, ахутаны нябачнай чарнобыльскай радыяцыяй. Свет, у якім столькі болю, столькі смутку, гора, колькі мне даводзілася бачыць толькі ў кніжках пра вайну.

**Я ў зоне неймавернага болю.**
**Над краем маім**
**Крыж-накрыж маланкі:**
**Ад болю не могуць яны расчапіцца,**
**Блакітны агонь выкрасаюць.**

**І падае гэты агонь**
**На чорныя стужкі дарог,**
**На цёмныя сінія рэкі,**
**На залатыя хлябы,**
**І ў душы людскія праз вочы ільецца.**

*/Ала КАНАПЕЛЬКА, «Я ў зоне неймавернага болю»./*

Нібы ў творах пра вайну, у зборніку часта сустракаецца слова «смерць». Але ў адрозненне ад тых, ваенных вершаў і паэм, у гэтых — пра нашу з вамі сучаснасць — смерць зусім іншая. Яна не здарожаная, не прапахлая потам і крывёй, не абыякавая, бо на вайне прывыкаюць да ўсяго, яна — спалоханая, яна — разгубленая, яна — недарэчная, часам нават з вачыма неразумнага дзіцяці, якое не ведае, што творыць:

**Смерць прыходзіць сёння не з касою,**
**Вобраз гэты надта састарэў.**
**Твар яе у той страшэннай зоне**
**У абліччах іншых я сустрэў.**

**Смерць была і яблыкам і грыбам,**
**Смерць расла на лузе і градзе.**
**Смерць плыла ў канаве стромкай рыбай**
**І ласём нясліся па бядзе.**

**У дварышчах, крапівой зарослых,**
**З ёй гулялі куры і каты.**
**Сталі смерцю пыл,**
**дажджы**
**і росы,**
**Нашы дахі,**
**сцены**
**і платы.**

*/Казімір КАМЕЙША, «У 30-кіламетровай зоне»./*

«Зорка Палын» чытаецца нібы адзін вялікі, шчыры твор, у якім амаль не чуецца смеху, а ўсё больш плач, а яшчэ часцей у ім наогул не чуваць галасоў, бо нікога не засталося, бо «тут пахне Хірасімай» /Пімен ПАНЧАНКА/.

Сто трыццаць сем вершаў і паэм у зборніку «Зорка Палын». Сто трыццаць сем свечак па душах памерлых ад чарнобыльскай атруты. Сто трыццаць сем плачаў па невылечна хворых людзях, па ненароджаных дзецях. Сто трыццаць сем смуткаў па атручаных лясах і рэках, птушках і жывёлах, па кінутых вёсках і зарослых атрутнай травою сцежках. І сто трыццаць сем папярэджанняў тым, у чыіх руках знаходзіцца нябачная смертаносная сіла.

Чарнобыльская трагедыя — гэта гора не толькі для асобных людзей, чые лёсы ці лёсы іх блізкіх паламаў той чорны красавік. Не толькі асобных краін, тэрыторыя якіх апынулася пад радыяцыяй. Гэта трагедыя для ўсёй планеты. Вось толькі розныя людзі ў розных канцах свету, раздзеленыя межамі і мовамі, не хочуць да канца ўсведамляць гэта, бо так — у няведанні — спакайней, прасцей жыць. Ды што казаць пра іншых, калі мы самі ў сябе дома, не паспеўшы адысціся ад афіцыйна вызначанай мяжы, за якой канчаецца зона, наіўна лічым, што нам ужо нічога не пагражае.

І хіба толькі празорлівейшымі за іншых

*Зорка Палын. Творы беларускіх паэтаў пра Чарнобыльскую трагедыю. Укладанне Алеся Бельскага. Мн., «Мастацкая літаратура», 1993.*

літаратурны працэс прадстаўлены тут, як амаль паўсюдна, асобнымі імёнамі і творамі. У гэтай сітуацыі выданне «Анталогіі беларускай паэзіі» ўяўляе сабою якраз адзін з вельмі своечасовых узаемных захадаў, скіраваных на актывізацыю паўднёва-славянскай беларусістыкі. І тут самага ўдзячнага слова заслугоўваюць пасяховыя творчыя намаганні прафесара М. Сібіновіча не толькі як перакладчыка, але і ўважлівага даследчыка беларускай літаратуры, увогуле культуры.

У цытаваным пасляслоўі «Белая музыка беларускай паэзіі: што гаворыць корань» М. Сібіновіч бадай ці не першым з сербскіх даследчыкаў разглядае беларускі літаратурны працэс у кантэксце агульнаеўрапейскага руху, гісторыі. Насуперак заганнай традыцыі, калі нашыя набыткі тлумачацца як факт суседніх літаратур, ён акцэнтуе на іх увагу як на з'явах уласна беларускіх. З'явілася надзея, што ўслед за М. Сібіновічам будуць выпраўлены памылкі, калі, напрыклад, творчая дзейнасць С. Полацкага, М. Сматрыцкага, Ф. Пракаповіча, П. Скаргі і інш., іх уплыў на сербскае барока бачацца як узаемадзеянне толькі з рускай або ўкраінскай літаратурамі /М. Павіч. Нараджэнне новай сербскай літаратуры. Бялград, 1983/. Ці калі шматвяковая гісторыя Супрасльскага манастыра з разнастайнымі паўднёваславянскімі кантактамі ўпісваецца адно ў кантэкст польскай культуры /Дж. Трыфунавіч. Палякі і польская зямля ў старой сербскай літаратуры і пісьмовасці. Новы Сад, 1981/.

Ствараецца ўражанне, што ўважлівае разгортванне цярністага беларускага шляху, увасобленага ў духу нацыі — паэзіі, зроблена са шчырым жаданнем, каб сербскі чытач гэтак жа, як і сам перакладчык, зразумеў, палюбіў брацкі славянскі народ.

У свой час В. Бялінскі коратка і ясна выказаўся: «Блізкасць да арыгінала заключаецца ў перадачы не літары, а духу тварэння». Так, адзіна дух, сутнасць твору — першапачатковая субстанцыя, пранікаючы ва ўсе элементы мастацкага арганізма, дае яму паўнакроўнае жыццё ў сістэме другой нацыянальнай традыцыі. Ці не таму, як прызнаецца сам М. Сібіновіч, перастварэнне беларускага верша ў іншую моўную стыхію не запатрабавала ад перакладчыка асаблівых высілкаў, што вернасць духу арыгінала набывалася спакваля, знутры, разумовым і душэўным асэнсаваннем.

Сербскі чытач мае магчымасць пазнаёміцца з творамі ўжо хрэстаматыйнымі для нашай літаратуры кшталту «Пахне чабор» П. Броўкі, вершамі А. Куляшова, М. Танка, П. Панчанкі і інш. Досыць шырока прадстаўлена пакаленне 60-ых гадоў, у тым ліку творамі Н. Гілевіча, А. Лойкі, А. Вярцінскага, Р. Барадуліна, В. Зуёнка, А. Грачанікава. Мы сустрэнем у анталогіі імёны паэтаў эміграцыі, а таксама прадстаўнікоў беларускай паэзіі Беласточчыны.

Пэўна ж, усе паэты, прадстаўленыя тут — ды і не прадстаўленыя таксама — заслугоўваюць таго, каб прагучаць не адным, двума вершамі, праз якія амаль немагчыма выявіцца космасу індывідуальнасці. Аднак у дадзеным выпадку перад намі аўтарская анталогія паэзіі, якая адлюстроўвае густ, прыхільнасці ўкладальніка, што натуральна і зразумела. Менавіта падборам твораў забяспечана цэльнасць успрымання нашага прыгожага пісьменства ў гэтым выданні. Тое, што М. Сібіновіч за дамінуючую з'яву беларускай паэзіі ўспрыняў белы рытмізаваны верш з яго ўнутраным напружаннем, а не радкі строга класічнай сілаба-тонікі, гаворыць пра вялікія магчымасці нашай паэзіі, здольнай праяўляць сябе ў розных формах.

Сур'ёзная гаворка пра перакладчыцкі плён прафесара М. Сібіновіча яшчэ наперадзе, як, будзем спадзявацца, наперадзе і далейшае асэнсаванне ім беларускай паэзіі. Варта толькі яшчэ нагадаць, што дыхтоўная, блакітнага колеру кніга накладам у дзве тысячы асобнікаў пабачыла свет у час, калі на Балканах адбываюцца трагічныя падзеі. Аднак эканамічны, сацыяльны цяжар абставін не змог заглушыць над Бялградам, Сербіяй «белай музыкі беларускай паэзіі».

**Галіна СЕЎРУК**

---

аказваюцца паэты. Ды хто сёння слухае паэтаў?!

**Праз войны, што курна дыміліся**
**У немай, ахвярнай жудзе,**
**На вось абапершыся, як на мыліцу,**
**Планета сусветам ідзе.**

**Са смутай,**
**што хмара аблoжная,**
**З душою —**
**трубой жураўля,**
**Планета мая трывожная.**
**Сівая Зямля.**

*/Мікола МЯТЛІЦКІ, «Праз войны, што курна дыміліся...» /*

Празорлівасць паэтаў — ад іх надзвычай чуллівай да кожнай бяды, да кожнай трагедыі душы. А гэтая чуллівасць вымагае ад аўтараў шчырасці, ад якой, думаецца, не ў апошнюю чаргу залежыць арыгінальнасць вершаў і паэм. Ці не таму ў зборніку столькі цікавых паэтычных знаходак, твораў, якія ўражваюць сваімі яркімі метафарамі, свежымі думкамі, прымушаюць чытача суперажываць разам з аўтарамі — «Зона» Уладзіміра НЯКЛЯЕВА, «Чорная быль» Анатоля СЫСА, «Чорны палын» Міхася ШЭЛЕХАВА, «Ахвяра» Міхася СКОБЛЫ, Анатоля ГРАЧАНІКАВА, Ніла ГІЛЕВІЧА, Генадзя БУРАЎКІНА, Яўгеніі ЯНІШЧЫЦ... «Амаль кожнага ў апошнюю дарогу праводзяць няўцешныя сваякі, зажураныя сябры, спачувальныя суседзі... А вось калі хавалі забітую чарнобылем зямлю, былі толькі далакопы, бульдозеры і вянкі з калючага дроту, якія ўсклалі моўчкі на магільны камень з надпісам: «Небяспечная зона!» Каб не прыйшоў хто і на радаўніцу зацепліць свечку, памаліцца за пакутніцу, птушыную асірацелую сям'ю пачаставаць. Даруй нам, грэшным і неразумным, Маці!», — самотна просіць Максім ТАНК у вершы «Просьба аб дараванні». І няма нічога больш балючага, чым просьба мудрага чалавека, які нямала горкага пабачыў і зведаў на сваім нялёгкім жыццёвым шляху.

Хоць, калі папраўдзе, не ўсе творы зборніка мне падабаюцца, не ўсе падаюцца аднолькава моцнымі. Яўна надуманым, штучным атрымаўся верш «Баравікі на брагінскім асфальце» Міколы КУПРЭЕВА. Здаецца, не зусім да месца іранічнасць у вершы «Абапал Сожа» Івана КІРЭЙЧЫКА: «Вяслуе бусел роўна, плаўна з лугоў да водшыбных сяліб... І ўсё так добра, ўсё так слаўна, ўсё так велічна, калі б... Калі б нам душы не «аздобіў» тупы чарнобыльскі сіндром — людской нядбайнасці чарнобыль махнуў і тут сваім крылом». Часам вершы розных аўтараў, нібы тыя блізняты, падобныя адзін да аднаго: той жа сюжэт, тыя ж думкі. Скажам, верш Таісы МЕЛЬЧАНКІ «Прыпяцкая вясна» амаль поўнасцю паўтарае /ці наадварот?/ верш «Птушкі...» Міколы МЯТЛІЦКАГА, з той розніцай, што апошні напісаны больш прафесійна.

Не зусім зразумелым падаўся мне заклік Сяргея ПАНІЗНІКА ў вершы «Нікольні не іронія»:

**Найперш, чым ратаваць зямлю і нацыі,**
**пазычым у святой Прыроды зерне.**

**Пазычым у Прыроды промні куцыя**
**і веру ўсю — ад самай Рэвалюцыі.**

Якую веру? Ад якой рэвалюцыі? Кастрычніцкай?

Слабаватай атрымалася паэма Анатоля ЗЭКАВА «Аварыя сумлення» з псеўдафіласофскімі пытаннямі тыпу «А вы бачылі калі-небудзь чаргу за сумленнем?», з каструбаватымі радкамі, накшталт «Іх назвы ўтаіла сусветная карта. Бо гэтая карта — не нейкі бязмеж. І хіба ты ўсё на яе нанясеш?», з банальнымі метафарамі. Праўда, вылучаецца ў гэтай паэме адзін невялікі, але вельмі шчымлівы раздзел — «Малітва маці», у якім жанчына звяртаецца да Бога: «Божа ўсявышні, спалі нашы вішні; як мне маліцца, каб пасохлі клубніцы...»

Калі гаварыць пра недахопы зборніка, то варта згадаць і гэтую недарэчнасць /не ведаю, па чыім недаглядзе/: верш Ніла ГІЛЕВІЧА «Апошні аўтарскі вечар Івана Мележа» падаецца як твор Дануты БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВАЙ.

Тым не менш, кніга атрымалася цікавая і патрэбная /у чым, вядома, заслуга і яе ўкладальніка Алеся Бельскага/. Кніга-боль, кніга-смутак, кніга-папярэджанне. І — кніга-надзея, што падобная трагедыя больш не паўторыцца.

**Алесь БАДАК**

---

*Віншуем!*

# ДЗЕЙНАЯ АСОБА

## СЁННЯ СПАЎНЯЕЦЦА 50 ГАДОЎ ВЯДОМАМУ ПУБЛІЦЫСТУ ЯЎГЕНУ БУДЗІНАСУ

Старажытнаму грэчаскаму філосафу Фалесу належыць такі неабвержны па змесце афарызм: «Мудрэйшы за ўсіх — час, бо ён усё выяўляе». Гэты «мудрэйшы за ўсіх» выявіў у Яўгена Будзінаса за пражытыя ім 50 гадоў вялікі жыццёвы патэнцыял, лідэрскую актыўнасць, пісьменніцкі талент, публіцыстычны запал, любоў да дзеяння, непрыманне чужой волі і запраграмаванага ўладамі паслухмянства. З такімі вартасцямі непрыкметна прайсці па жыцці немагчыма.

Што тычыцца адукацыі, дык юнацкая мара адшукаць у Космасе з дапамогай радыёсігналаў братоў па розуме прывяла Будзінаса ў Мінскі радыёінстытут, які ён, аднак, пакінуў, зачараваны другім прызваннем — журналістыкай. А пісьменнікам ён стаў па натхненні.

На творчасці Яўгена Будзінаса істотна адбілася, на маю думку, тая акалічнасць, што ён нарадзіўся і выхоўваўся ў Вільні. Самы важкі час, калі назапашваюцца ўражанні, выпрацоўваецца светапогляд, прыпаў у Будзінаса на дзесяцігоддзе, калі ў Літве змагаліся супроць бальшавіцкай улады аддзелы «зялёных братоў», а падраздзяленні МДБ падпарадкоўвалі сялянскі індывідуалізм ідэям калектыўнай сцішанасці і нематы, якія ператвараліся ва ўсенароднае скрытае дысідэнцтва. Уплывала на юнацкую свядомасць і сама атмасфера Вільні, былой сталіцы Беларусі і Літвы. Цудам ацалелая ад ваеннага знішчэння Вільня, у багацці сваіх касцёлаў і цэркваў, Вострай Брамы і старадаўняга універсітэта, палацаў, музеяў, замкаў, пантэона вялікіх князёў, выхоўвала густ і сталічны стыль мыслення. Здаецца, Яўген Будзінас адзіны з сённяшніх беларускіх пісьменнікаў, хто гадаваўся на тых вуліцах, якія памяталі грукат нашага першага друкарскага станка. Гэты віленскі фон любоўна адлюстраваны Будзінасам у аўтабіяграфічнай аповесці пра юныя гады.

Публіцыстыка, якая займае галоўнае месца ў творчасці Будзінаса, гэта рэакцыя найперш на цікавых людзей. Мне неаднойчы даводзілася быць сведкам шчырай цікаўнасці Будзінаса да людзей невядомых, але неардынарных і адораных. Герой ягонай публіцыстыкі 80-х гадоў — і ёсць адораны сельскі чалавек. Першыя сустрэчы з гэтым героем мелі месца зусім не па «заданні рэдакцыі», яны адбыліся пры малавядомых каму абставінах, калі ў цяжкія гады Яўген быў вымушаны зарабляць на жыццё кладкай печаў па вёсках. Там, у сельскай глыбінцы, ён адшукаў немалы аддзел цікавых людзей — савецкага індывідуала, сельскага лідэра, «дзелавога» мужыка, які ў абставінах таталітарнай эканомікі гнуў сваю лінію, разлічваў толькі на сябе, мусіў адначасна быць смелым і хітрым, жорсткім і лагодным, рашучым і пачцівым, майстрам на ўсе рукі і дасведчаным начальнікам. Усе тыя «Героі Сацыялістычнай Працы», партрэты якіх падаваў Будзінас, былі нязломаныя савецкім ладам асобы з вострым розумам і моцным духам. У рэшце рэшт гэта яны сваімі намаганнямі вярнулі прыгнечанаму беларускаму калгасніку статус «нармальнага» чалавека. Не на словах, зразумела, чаго хапала, а праз заробкі, новыя дамы, добрыя двары, уласныя легкавікі. Безумоўная заслуга Будзінаса перад беларускай публіцыстыкай у тым, што ён таленавіта абмаляваў гэты працэс, вывеў новага героя на арэну агульнага ўсведамлення, асэнсавання, павагі. Ці ўсведамлення, асэнсавання і сацыяльнага пратэсту, як гэта было з «прамежкавым чалавекам». Гэты тып — сапраўднае адкрыццё пяра Яўгена Будзінаса, вобраз, які з асобных нарысаў перарос у вядомы раман-даследаванне. «Прамежкавы чалавек» увасабляе сабой уладу. Ён не вясковец і не гараджанін, не гаспадар і не найміт, не вытворца і не спажывец. Ён — размяркоўшчык. Яго галоўная функцыя — нічога не рабіць, але ўсё размяркоўваць, жыць за чужы кошт, застаючыся пры гэтым нібыта патрэбным і незаменным. Асабліваe, выключна саўковае майстэрства выканання нейкай д'ябальскай функцыі.



Памятае чытач і «Правінцыйны дзённік» Я. Будзінаса, прысвечаны мінскім Дзядам-88 і Выбарам-90, — гэтую публіцыстычную араторыю з мноствам рэальных галасоў і глыбокім сацыяльным аналізам адыходзячай эпохі.

Па спрадвечным законе літаратуры немагчыма пісаць неардынарную публіцыстыку, не маючы самому адэкватных вартасцей: нестэрэатыпнага мыслення, схільнасці да рашучых учынкаў, мужнасці прыняць на сябе адказнасць. Неяк Будзінаса з калегам-журналістам камандзіравалі ў глухі райцэнтр. Вечарам калега выправіўся на сентыментальную вандроўку па вуліцах і быў пабіты «крутымі» абарыгенамі. Назаўтра днём гэты пацярпелы і Будзінас выпадкам сустрэлі хуліганаў у скверы. «Яны!» — прашаптаў разбітымі вуснамі калега, і Будзінас зрэагаваў так — не зважаючы на колькасную перавагу праціўніка рынуўся ў бойку і накаўтам пакараў крыўдзіцеля свайго калегі. А той стаяў і глядзеў. Узгадваю гэту маленькую падзею як паказальнік жыццёвай пазіцыі юбіляра.

Невыпадкова аднаго са сваіх герояў, з любімай кагорты «дзівакоў» старшыню калгаса Уладзіміра Бядулю Будзінас адрозніваў ад «негерояў», «недзівакоў» такой ёмістай формулай: Бядуля — хоча, можа, робіць: «негерой» — не хоча, не робіць і таму не можа. Гэтыя словы — «хачу, магу, раблю» — можна лічыць сакраментальным дэвізам самога Яўгена Будзінаса. Суадносяцца яны заўжды з няпростай мэтай, з выражэннем мудрагелістай задачы. Бо ён сам «дзівак». Ён адзіны на Беларусі чалавек, які ў апошнія гады, пры інфляцыйным патопе, адрэстаўраваў вятрак. Адзіны з кнігавыдаўцоў, хто не выдаваў так званыя камерцыйныя выданні — эратычнае і агрэсіўнае смецце, якім завалены зараз кнігарні ўсёй Беларусі. Насуперак гэтаму творчы цэнтр «Паліфакт», які ўзначаліў Будзінас, адразу падтрымаў беларускамоўныя выданні, узяў на сябе клопат па выданні кнігі Зянона Пазняка «Сапраўднае аблічча». Менавіта Будзінас распрацаваў і курыраваў выпуск серыі «Сустрэчная думка», якая ўпершыню на Беларусі і наогул у межах былога СССР пазнаёміла чытача з кнігамі лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі Хайека і Фрыдмана «Пра волю», Вацлава Гавела «Сіла Бяссільных» і Свэна-Ота Літарына «Разбурэнне сацыялістычнага міфа». Гэта стараннямі Будзінаса трапілі да чытача новыя ці невядомыя творы Аўтарханава, Льва Цімафеева, Эрнста Неізвестнага, Франца Кафкі. Між тым было б прасцей і больш карысна рабіць «як усе», як іншыя беларускія кнігавыдаўцы. Карысна — ды нецікава. А ўсё нецікавае Яўгена Будзінаса не цікавіць. Адна справа працаваць на элітарнага чытача, на яго культуру, інтэлект, веды, другая — абслугоўваць жаданні і інстынкты інфантыльнай публікі. Гэтыя супрацьлеглыя накірункі інтарэсаў яскрава дэманструюць заўсёднае змаганне культуры з цемрай, інтэлігентнасці са сквапнасцю, а больш агульна — Дабра са Злом. Дзякаваць богу, відочна, якімі дастойнымі ідэаламі кіруецца тут Яўген Будзінас.

Зробленае заўжды падаецца меншым, чым хацелася б. Будзінас з той пароды людзей, хто максімальна насычае жыццё працай, адухаўляе яго марай і яе здзяйсненнем. Ён — чалавек дзеяння. Дзейная асоба. Пажадаем юбіляру надалей мець перад сабой яркую зорку высокай мэты, увасабляць задумы, даючы калегам, прыхільнікам, чытачам узор аптымізму, творчай дзёрзкасці, сяброўскай надзейнасці.

**Кастусь ТАРАСАЎ**

# ЗАЦЕМКІ З ЛЕВАЙ КІШЭНІ

Леанід ГАЛУБОВІЧ



Калі я гавару ці думаю пра паэзію, то я гавару і думаю пра сябе.

Паэзія ні пра што не гаворыць. Яна гаворыць за нешта ці за некага. Альбо — маўчыць... Яна можа гаварыць за ўсё і за ўсіх, акром Бога, бо Ён і ёсць Слова. А што можа сказаць Слова пра Сябе? Яно схаваецца за іншымі словамі, тым самым сцвярджаючы сваё Адзінства ў множстве...

Ноч... Сум, самота, роздум... І так хочацца напісаць верш, ажно рукі свярбяць! І ведаю — што змагу. Аднак падсвядома нейчы голас мне кажа: без майго ведама і дазволу не псуй паперу. Дзіўна. А калі паспрабаваць аслухацца? Пераступіць яго волю? Пераступіць Слова? На жаль, бывае і так...

Разлітыя каляровыя фарбы — самі па сабе — ужо ёсць семя мастацтва. І трэба мець толькі своеасаблівае вока /бачанне/, каб распазнаць /разгледзець/ у гэтай разлітай густой пляме вобраз нашае цывілізацыі... У прынцыпе гэта тычыцца не толькі фарбаў, але і каменю, і слоў, і гукаў — усяго таго, без чаго чалавек не ў стане стварыць паўнацэнны вобраз. Магчыма, вышэйшая праява мастацтва не ў гармоніі, а ў хаосе...

Я стаю за тваімі вейкамі — ты не бачыш мяне...

*/радок з ненапісанага верша/*

Адзіны сябра твой — Роздум — пасміхаецца над поўнай чаркай твайго адчаю...

*/згадваючы паэта Купрэева/*

У пісьменніцкай сям'і грэбуюць беларускай мовай. І нават сам пісьменнік іграе гэткую ролю беларуса ў сям'і, як выпадковы артыст у рускім тэатры імя Горкага. Што і гаварыць, не соладка жыць беларускаму пісьменніку! А якое жыццё — такое і пісанне...

Толькі жывая прырода адгукаецца на мой голас. ...Лес мікрафонаў...

*/блукаючы па лесе/*

Да выказвання «Паэты паміраюць рана» я дадаў бы: «Але многія яшчэ доўга пішуць».

Купрэеў даслаў у канверце разам з лістом тры восеньскія лісточкі з Белавежскае пушчы для дачкі... На такое здольны, бадай, яшчэ Толя Сыс. Хоць, па першым ўражанні, якраз ад іх такога і прадбачыць немагчыма.

Калі напісанае ёсць пражытае, то яго шкада, як жыцця...

*/роздум над ненапісаным/*

У кожнага чалавека, на жаль, адно жыццё, але — дзякаваць Богу — і адна смерць.

Шэрхлае лісцё пад падэшвамі шэпчацца пра холад людской душы...

Усё цяжэй прагаворвацца вершамі, спатыкаешся, ідучы ў традыцыйным рытме. Не свет спачувае табе, а ты — яму...

Кніжкі — для ўсіх, вершы — для паэтаў, паэзія — для абраных.

Паэзія і проза ёсць дзяцінства і старасць, здагадка і ўспамін. Гётэ не зведаў старасці і памёр маладым, а Купала «памёр» ад старасці...

Калі ноччу доўга глядзіш у заваконную цемру — ты ўжо нажыўся.

Калі бачу Сыса — мне шкада сябе...

Нядаўна на «маскоўскіх» могілках паставілі помнік Жэні Янішчыц. Ён як бы адштурхоўваецца ад магілы і, разам з тым, ціcне на яе сваім цяжарам, прызямляючы маю памяць... А побач — магіла скульптара Анікейчыка: убітая ў зямлю рамачка з фотапартрэтам і надпісам, і ані каліва каменя, граніта, бронзы... О, адсутнасць помніка ёсць геніяльны помнік скульптару! Не кожны зразумее, але хіба на могілках трэба нешта разумець?! На могілках трэба здагадвацца. Ну, хоць бы пра помнік самому сабе, які Анікейчыку бачыўся... І, вось, я стаю тут і дадумваю ў сваёй галаве яго гэты помнік...

Дзякаваць Богу, час не прыпыняецца нават пасля смерці генія, але... асэнсоўваецца.

Лістапад, а табе за сорак... Восень нарэшце мае ўсе правы на мой час, дух і плоць... Жывучы гэтым разуменнем, нават халодную імжу ўспрымаеш спагадліва і прачула...

Восеньскі сад... Некалькі антонавак усё яшчэ ўпарта трымаюцца за галлё. Рыжая трава састарэла, чакаючы іх...

Калі пішаш верш, не думай пра яго. Думай пра самога сябе, бо не хто іншы, а ты пішаш гэты верш. Лепш, канечне, калі верш цябе піша...

Творы Алеся Разанава адлюстраваны на яго твары. Асабліва — квантэмы...

Чытаў Дубаўца і думаў пра сябе. Часцей за ўсё нашых пісьменнікаў чытаеш, на жаль, думаючы пра іх...

Мінкін — паэт кніжны, Прыходзька — акопны, а Сыс — з Гарошкава...

Купіў першы зборнік «Ластаўка ляціць» ЛЮДКІ Сільновай. Прачытаў год нараджэння — і расчараваўся...

Калі ў ванне чуецца плёскат вады, то я не магу адчуваць сябе дарэшты чыстым.

Я мог бы спакойна засынаць штоноч, калі б ведаў, што абавязкова прачнуся...

Слова не дае права на вечнасць. Вечнасць дае права на слова.

*/перачытваючы Біблію/*

Былі людзі, без якіх я не нарадзіўся б, і ёсць людзі, без якіх я не жыў бы, і будуць тыя, дзеля якіх я памру...

*/пасля бацькавай смерці/*

Акудовіч нават заікаецца своеасабліва, як бы ўзбіраецца на гару, час ад часу перастрахоўваючыся...

Калі няма больш аніякага паратунку — успамінаеш маці...

Прачытаўшы Віктара Шклоўскага, ужо не здзіўляешся аб'ёму яго галавы...

Чытаю ў рэцэнзіі Барыса Эйхенбаума на кніжку Анны Ахматавай такі пасаж: «Хочацца больш простай і строгай вокладкі». Пасля гэтых слоў напаўняешся гонарам: у нашых кніжак вокладкі больш класічныя, чым у Ахматавай.

Цяпер многа маладых, як яны любяць казаць, файных паэтаў. Адзін з іх — гарадзенец Юры Гумянюк. На людзях — заўжды ў чорным гарнітуры, белай кашулі з матыльком, вылізаны, чырванашчокі... Голас льецца з грудзей, як з магнітафоннай стужкі... Не столькі чуць хочацца, як бачыць дзейства. Вось зараз ён агучыць слова СЭКС — і самлела ўспацее... Факір!

Кніжка адгорнута на трыццаць шостай старонцы... Гэта — так, міжволі зазначаеш. Калі словы не нясуць асаблівага значэння, то пачынаеш звяртаць увагу на лічбы.

Як падумаеш, колькі табою выпіта, як столькі ўлезла... і адкуль вылезе, і ў што выльецца?! Божа, барані...

Не пішы з самага ранку. Падумай...

Бадай, сёння настаў той час, калі не чытач выбірае паэта, а паэт — чытача.

З'явілася цэлая плойма вершатворцаў, у якіх за душою, акром маці, бацькі і рыфмы, нічога няма. Аднак упартыя: не расце, а ўсё адно сеюць — пясок на пясок, і задаволена сябе пачуваюць на гэтым жвіры, як на кактэбельскім пляжы...

*/прачытаўшы каляндарны план работы Дома літаратара, дзе пазначаны творчыя вечары/*

Люблю Сідарэвіча проста за тое, што ён ёсць які ёсць. Сапраўдных цяпер вельмі мала, усё больш штучныя. Ён жа, можна сказаць, — мара Купалы пра беларуса: пра лапці не забыў, а розуму дастаў.

Заплакаць не ад гора, але ад шчасця — вось вышэйшая праява чалавечнасці.

У кожнага чалавека — сваё жыццё. Але, да таго ж, у нас — ва ўсіх! — адно жыццё. Ва ўсяго чалавецтва — адно жыццё... І — толькі...

Паэты ёсць прыродныя, прытворныя і прыдворныя...

У нас ва ўсе вякі хапала разумных людзей, патрыётаў і змагароў за беларушчыну, але заўжды не было каму гаварыць на беларускай мове... Таму і сённяшні наш суверэнітэт многім падаецца сувенірным падарункам нашаму народу ад вялікай Расеі.

Чорная кава ў кубку канчаецца, а сэрцабіццё толькі пачынаецца...

Прызнацца ў каханні — гэта прызнацца ў бяссіллі перад прыродай.

Думаю, што я фартовы. Вось і ўчора трамвай паспеў аб'ехаць мяне.

Не той дэмакрат, хто ўмее гаварыць, а той, хто ўмее слухаць.

*/перабудоўчае/*

...А пачынаецца паэзія там, дзе канчаецца паэт...

*/з недрукаванага верша, які не стаў фактам паэзіі/.*

**О, як многа, Гасподзь, прашу,**
**Сам душы сваёй не дарыўшы, —**
**Нібы крыж нацельны нашу,**
**Кроў чужую з рук не адмыўшы...**

*/таксама чамусьці далей не пайшло/*

Мне здаецца, Сідарэвіч ведае ўсё, акром самога сябе...

*/пасля ягонага трыццаціхвіліннага маналога ў метро.../*

Я з задавальненнем буду мыць посуд на кухні, толькі б ніхто не перашкаджаў маёй адзіноце... Мыючы посуд, і сам унутрана як бы ачышчаешся ад усякай набрыдзі. Своеасаблівае адпушчэнне грахоў...

*/сямейнае/*

Жанчына, як крытык, не больш чым белетрыст. У іх ад прыроды не крытычная логіка, яна ў іх мацярынская, а значыць, суб'ектыўная.

Як быццам бы пісьменнікі пішуць граматна, а час усё адно выпраўляе іх памылкі.

Нічога ў свеце не змянілася ад напісаных мною слоў. Магчыма, змяніўся я сам...

*/такое ўражанне, што некага паўтараю/*

Паэт валодае гукавым мысленнем, а дзеці падказваюць і тлумачаць яму новыя словы.

*/гуляючы з дачкою/*

Кожны сапраўдны мастак стварае свой вобразны свет, але сам СВЕТ, у сваім абсалюце, больш цэльны, гарманічны і непагрэшны, як і быў у задуме геніяльнага яго творцы Госпада, які стварaў яго не ад вялікай сілы, а адзінствам і паразуменнем магчымых сіл...

*/няўцямнае пасля няўцямна прачытанага/*

Абсалютна сумленных людзей цяпер няма. Яны былі тады, калі маральнасць была сутнасцю іх душы, а не вісела над душой Дамоклавым мячом, як вісіць зараз.

Сыс нарадзіўся з хаосу, і хоча з аскепкаў хаосу скласці люстэрка, каб убачыць у ім адлюстраванне сваёй гармоніі, пра якую ён нічога не ведае. Ён толькі ведае, што яна павінна быць...

Чытаю М. Бярдзяева і, скрозь туман падсвядомасці, лаўлю той момант, той шоўкавы шолах, калі жонка сцеле ложак на ноч... Гэта значыць, што да разумення Бярдзяева я яшчэ не саспеў.

Жыццё такое цынічнае, што грэх яго цытаваць.

Вершы — як сны... Не ведаеш, што прысніцца, і не кожны сон памятаеш.

Сны — заўжды абрывачныя, фрагментарныя, беспачатковыя і бясконцыя... Нешта накшталт адной з частак выпадкова ўбачанага мексіканскага серыялу... Але ў снах няма логікі, ёсць інтуіцыя, інстынкт, прадчуванне і мяжа небяспекі /прачынанне/. Сны нельга любіць ці ненавідзець, хацець іх альбо не... Сны можна толькі сніць і тым мець уяўленне пра памяць і жыццё па смерці. Сны зберагаюць вечнасць і засцерагаюць ад вар'яцтва. Пакуль жывеш — сніш, а паміраеш — снішся...

*/яшчэ да сну/*

На чарговым банкеце сакратар СП Беларусі сказаў прыкладна так: вось, сёння мы зноў прынялі ў саюз сем чалавек, на падыходзе ў нас яшчэ чатырнаццаць таварышаў і на прыкмеце тыя, за кім мы пастаянна сочым... Не, мы не дадзім памерці нашай мове і нашай беларускай літаратуры!

Зразумела, што памерці не дадуць, а — жыць?

Усе падваконнікі ў кватэры жонка заставіла кактусамі. Карлікавыя, таўсматыя, падоўжаныя, яйкападобныя, але ўсе — вусата-калючыя... Жонка любіць кактусы. З чаго б гэта? Ці не адлюстроўвае гэта прывязанасць яе душу? Я хачу гэтым нягучна зазначыць, што жонка такая ж калючая па характары, як і яе любімыя кактусы...

*/пішу, сузіраючы іх насцярожанасць/*

Відаць, так і памру, не ведаючы, па сутнасці, што такое жыццё... Траве лягчэй...

*/стоячы на балконе/*

Паэт, не прызнаны самім сабою, памірае...

Ніколі не даводзілася бачыць, каб паміраў араты ці сейбіт на полі, за плугам ці за сяўнёю... Прырода была б «без божества и вдохновенья» і не апраўдвала б сваёй вечнасці, калі б зжынала ў час сяўбы...

Божа, пра што толькі ні думаеш, калі думаеш ні пра што...

*/бяссонне за сталом/*

Калі абступае цемра, то бачыш сябе самога...

*/вечарам у адзіноце/*

Рэдка якой запалцы выпадае дагарэць да канца...

*/прыпальваючы цыгарэту/*

З усіх сустрэч з Яўгеніяй Янішчыц мне найбольш глыбока запала ў душу яе ўсмешка, ад падсвядома прачутага трагізму якой у мяне заўжды нямела нутро... Пазней, дзякаваць Богу, я такой усмешкі ні ў кога ўжо не сустракаў. Калі хто памятае класічны выраз твару французскага міма Марселя Марсо, то здагадаецца, пра што я хацеў тут сказаць...

*/пад час працы над дакументальнай стужкай/*

Нарэшце, прыйшлі і сказалі: вось вам воля, свабода і дэмакратыя! І паказалі, якія яны, навошта, адкуль і дакуль... І мы, абміраючы ад шчасця, абмацваем ГЭТА рукамі і ўсё маракуем, як ГЭТА спатрэбіць на ўласную карысць...

*/пасля БНФ-скага мітынга/*

Слова НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ ужо страціла сваю першапачатковую нявіннасць. Таму многія цяпер абыходзяцца з ім вульгарна, як з вулічнай дзеўкаю, незалежна ад таго, у

*(Працяг на стар. 10-11)*

ЛіМ ЧАСАПІС
КОЖНЫМ АПОШНІМ ПАНЯДЗЕЛКАМ



Панядзелак, як вядома, дзень цяжкі, і таму бальшыня тэатраў зрабіла яго сваім выхадным. Але ў Рэспубліканскім тэатры юнага гледача кожны апошні панядзелак месяца адбываюцца цікавыя сустрэчы выкладчыкаў, пад чыёю наставаю дзеці зазвычай далучаюцца да тэатральнага мастацтва, з артыстамі тэатра. Гэты своеасаблівы цыкл распачала Ларыса Горцава, а падхапілі і прадоўжылі Міхась Пятроў і Леанід Улашчанка. Расказы пра тэатральнае жыццё-быццё суправодзіліся ўспамінамі абодвух бакоў /як прадстаўнічага, так і глядацкага/ пра самыя памятныя ролі акцёраў у тэатры і кіно.

У «ЛіМе» таксама знайшлася фотазгадка пра колішнія ролі. Спектакль па матывах «Прыгодаў Гулівера» Д. Свіфта называўся «У краіне ліліпутаў» і даваў рэдкую магчымасць дзівіцца ці на ўвесь сталы склад тюгаўскіх выканаўцаў. Згадайце разам з намі...

*На здымку: Міхась Пятроў, Рыма Маленчанка, Ларыса Горцава, Леанід Улашчанка ў колішнім спектаклі.*

*Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ*

## «КРАЙ» ПРА КОБЕЦА

Нядзельны /6 лютага/ выпуск праграмы «Край» быў прысвечаны, так бы мовіць, асэнсаванню лёсу вядомага драматурга і пісьменніка Рыгора Кобеца, — увасобіць яго, альбо, больш дакладна, скласці нам уяўленне пра яго дапамог акцёр Рускага тэатра Беларусі Валерый Шушкевіч /быў заняты і ягоны калега Яўген Лявонцеў/. Усе скруты тагачаснага пісьменніцкага лёсу, усе гістарычныя двухсэнсоўнасці і дакляраванні, усе жорсткасці эпохі вялікіх сацыялістычных будоўляў і цесных лагерных нараў былі пададзены ў перадачы адметным пункцірам-канвой, асабліва ўражвала неблатная, спакойная лагерная песня за кадрам пад выявы бясконцага этапавання да месцаў зняволення... Праўда, самой перадачы крыху забракавала драматургічнай інтрыгі, але цяжка пераацаніць, напрыклад, фрагменты выступленняў і расповядаў пра сябра Кобеца Заіра Азгура і Станіслава Шушкевіча, цікавымі падаліся і сведчанні дачкі пісьменніка Алены Кобец-Філімонавай. Рэжысёрам перадачы выступіў Мікалай Грыгор'еў, сцэнарыстам — Любоў Філімонава. Мастацкі кіраўнік праграм «Край» — Ігар Александровіч.

## НА АРЭНЕ — ЗОРКІ

«Зоркі арэны» — так называлася нядаўняя праграма ў Мінскім дзяржаўным цырку. Яна завяршылася, але зорак на арэне не паменшала. І цяперашняе прадстаўленне вызначаецца арыгінальнасцю нумароў, іх віртуознасцю і высокай мастацкасцю. Уражвае, напрыклад, атракцыён «Сярод львоў» пад кіраўніцтвам народнага артыста Расіі Б. Бірукова. Шмат выдумкі і ў нумары «Музычныя эксцэнтрыкі з мядзведзямі» пад кіраўніцтвам братоў Барыса і Стуара Біруковых. А вось «Акрабаты на мінігрампе» /кіраўнік Л. Парнюшка/ — гэта майстэрства і прыгажосць разам узятыя. І, канечне, якая праграма без гумару, смеху. Гэтым разам выступаюць не клоуны, а клаунесы А. Шлякоўская і А. Тарасюк.

## КАБ ЧАС НЕ СПЫНЯЎСЯ

Полацкі археалагічна-культурны запаведнік, нягледзячы на неспрыяльныя эканамічныя ўмовы, працягвае сваю выставачную дзейнасць. У студзені наведвальнікі музея Беларускага кнігадрукавання мелі магчымасць, акрамя сталай экспазіцыі, паглядзець і мастацкую выставу навапалацкай габеленшчыцы Таццяны Козік, а таксама керамістаў з Віцебска Андрэя і Паўла Навучэнкаў, Ігара Вераб'ёва.

Актыўная выставачная дзейнасць дазваляе музею пазбаўляцца пачуцця «закансерваванасці» экспазіцыі.

А. К.

Пошта

# ЛЮБІЦЬ РАДЗІМУ... У СУСВЕТНЫМ МАШТАБЕ

Памёр Сяргей Карніловіч. Спачуваючы родным і блізкім нябожчыка, я смуткую разам з імі, бо памёр не проста добры чалавек, памёр адзін з тых руплівцаў беларускай ідэі, чыімі намаганнямі беларусы Злучаных Штатаў Амерыкі не забываюцца на сваю Бацькаўшчыну. Я быў асабіста знаёмы са спадаром С. Карніловічам, таму ягоная заўчасная смерць балюча адазвалася ў маім сэрцы. Да таго ж прывяла да наступных меркаванняў.

Беларусь «афіцыйная» доўгія дзесяцігоддзі адмаўляла сваім сынам і дочкам, якія воляю лёсу апынуліся за мяжой, у натуральным пачуцці — любові да сваёй радзімы, рабіла выгляд, нібыта беларускай эміграцыі не існуе ўвогуле, а тыя, хто эміграваў, — здраднікі. І кропка.

Тысячы здраднікаў?

Абсурд! Гэтыя «здраднікі» ні ад каго не хаваліся, дык чаму іх ніхто і ніколі не арыштаваў? Хіба адно толькі наша краіна змагалася са злачынствамі і злачынцамі?

Відавочна, што гэта быў звычайны савецкі міф, а з другога боку — злачынства. Злачынства былой ідэалагічна-дзяржаўнай сістэмы ў адносінах да свайго народа. Але ж, што было рабіць эмігрантам, акрамя таго, як асіміляваецца ў асяроддзі тых, побач з кім яны апынуліся? Радзіма ж іх не лічыла за сваіх дзяцей.

Тым не менш, свядомая частка беларусаў не забылася сваёй Бацькаўшчыны і рабіла шмат спраў на яе карысць, дзеля чаго былі створаны шматлікія культурныя беларускія цэнтры, намаганнямі такіх выдатных дзеячаў, якім быў і Сяргей Карніловіч. Згадайма такія цэнтры, як «Менск», «Полацак», Інстытут беларускай навукі і культуры — у ЗША; бібліятэку імя Францішка Скарыны — у Лондане і г. д. Але створаны ды існуюць яны на энтузіязме эмігрантаў пераважна першага пакалення, у чыёй памяці Беларусь — не геаграфічнае паняцце, не радзіма бацькі ці маці, бабулі ці дзядулі, а іх уласная радзіма, дзе жывуць родныя, знаёмыя, дзе засталіся іх дзяцінства, іх праца, іх зямля.

Цяпер яны старэюць і, на жаль, паміраць. І мяне непакояць пытанні: што будзе з тымі асяродкамі беларускай культуры ў недалёкай будучыні? Што будзе зараз з «Полацакам», асірацелым пасля смерці спадара Карніловіча? Што станецца з Інстытутам беларускай навукі і культуры без Кіпеляў? Што будзе з бібліятэкай імя Ф. Скарыны без айца А. Надсана? Дай ім, Божа, здароўя і даўгалецця, але пытанні між тым застаюцца.

На эміграцыі жылі й жывуць мастакі, пісьменнікі, паэты, архітэктары, кампазітары, музыканты, якія кіруюцца ў сваёй творчасці беларускай ідэяй /ментальнасцю/. Але, паўтаруся, за нешматлікім выключэннем — гэта эмігранты першага пакалення. Нават у другім пакаленні беларускай мовай валодаюць ужо дрэнна, а што гаварыць пра трэцяе? Мастацкае жыццё беларускай дыяспары замірае і, хутчэй за ўсё, апусціцца да зусім нязначных з'яў, калі гэтае /мастацкае/ жыццё не будзе падтрыманае з боку Беларусі —

# БЕЗ ХРЫСТА

## «ПАННАЧКА» Н. САДУР НА ЭКСПЕРЫМЕНТАЛЬНАЙ СЦЭНЕ АКАДЭМІЧНАГА ТЭАТРА ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА

Воблік Хрыста-немаўляці, што лунае над зруйнаванай царквой /сімвал страчанай духоўнасці/ — фінальны акорд філасофска-рамантычнай прыпавесці «Панначка». Аўтар п'есы — вядомы маскоўскі драматург з кагорты так званай «новай хвалі» Ніна Садур. Твор напісаны па матывах фантастычнай аповесці Гогаля «Вій», але ўяўляе сабой не стандартную інсцэніроўку, а хутчэй, «драму XX стагоддзя» пра чалавека, згубіўшага сваю духоўную ніць, свой унутраны стрыжань у вывіхнутым, бездухоўным свеце — і тым самым значна адрозніваецца ад празаічнай першакрыніцы. П'еса, багатая на складаныя сімваліка-асацыятыўныя хады, хавае ў сабе «адкрытую» мастацкую структуру і стварае добры грунт для разнастайна-непадобных сцэнічных трактовак. Воблік Хрыста-збавіцеля, што заяўляўся ў п'есе і быў, так бы мовіць, яе вобразным лейтматывам, знік у спектаклі «Панначка», пастаўленым маладым рэжысёрам Віктарам Куржалавым, выпускніком Беларускай акадэміі мастацтваў. Замест яго над жыццёвым лёсам герояў пануе Злы Дух, ён жа гогалеўскі Вій /?/, ён жа Музыка /Д. Трушко/.

Шчыра скажам: многае ў яго знешнім выглядзе /малады, сучасны, раскамплексаваны юнак/, касцюме /спалучэнне еўрапейскіх ды арабскіх элементаў/, ды і наогул, неабходнасці існавання ў прасторы спектакля выклікае неўразуменне. Напрыклад, чаму ён — прадстаўнік царства цемры, Злы Дух — з'яўляецца на сцэне ў шырокім промні святла? На гэта меў бы права хіба што Люцыпар. Д'ябал, але не Вій — ягоны паслугач, які мусіць быць невідушчым, бо мае вялізныя вейкі /адсюль яго імя — Вій/. У спектаклі ж, паводле рэжысёрскай логікі, з'яўляецца не Вій, а Люцыпар /ад слова «люцыум» — святло/ — патуральнік Святла, значыць, Бога. Увогуле, Д'ябал і Музыка — спалучэнне невыпадковае: узнікаюць цікавыя асацыяцыі, напрыклад, Адрыян Леверкюн з «Доктара Фаустуса» Томаса Мана, або Імправізатар з «Егіпецкіх начэй» Пушкіна, падобна якому і Дух-Музыка са спектакля «Панначка» стварае дзіўнае відовішча, свет людзей-прывідаў, людзей-ценяў. Але тут хочацца нагадаць адну простую рэч. Д'ябал — сіла разбуральная, а не стваральная. Ці не таму жадоба лялькі-Панначкі /гераіня існуе ў спектаклі спярша як не жывы персанаж, а як сімвал, знак/, якую Музыка «нараджае» ад сваіх вантробаў, ператвараецца ў прах, у нішто.

Здаецца, галоўным выразным сродкам акцёрскага выканання ў спектаклі з'яўляецца пластыка. Рухі, жэсты, міміка, дастаткова вывераны і падкрэсліваюць альбо характары «зямных» дзейных асоб: жаночую спакушальнасць, гуллівасць і какецтва Хвеські /П. Міхачова/, цвярозую нахабнасць, здаровы цынізм і зямную трываласць Яўтуха /В. Цвяткоў/, рамантычна-загадкавую адчужанасць Дораша /Я. Сакольскі/ — альбо функцыянальную зададзенасць містычных герояў — Музыкі і Панначкі /Т. Ліхачова/.

Сярод акцёрскіх работ асабліва вылучаецца Хама Брут у бліскучым выкананні Міхася

# ЗАЦЕМКІ З ЛЕВАЙ КІШЭНІ

*(Пачатак на стар. 9)*

якой ступені яны да ГЭТАГА падрыхтаваны.

*/вынесенае з тых жа крыніц/*

Чытаючы Розанава, як бы і сам сарамліва распранаешся... і падсвядома ўяўляеш, з якой агідай глядзяць на тваё грэхападзенне знаёмыя, якія яшчэ ўчора гатовыя былі захапляцца прышчыкам на тваім носе... А насяра ў цябе, дай Божа! Цяжка чытаць Розанава, але яшчэ цяжэй разумець, што ты нашмат горшы ад яго, а ісціна яшчэ страшнейшая...

Фанабэрся тады, калі пішаш, а не пасля таго, як напісаў. Пасля таго — ты ўжо і так відзён...

*/з уласнага вопыту/*

Паэт, выдаўшы двухтомнік, ведай, што чытачы ад цябе чакалі не гэтага!

*/купіўшы аднаго дзяржлаўрэата/*

Цікава: чаму пра жыдоўства шэпчуцца, пра славянафільства гавораць, а пра нацыяналізм крычаць?..

За ўвесь дзень — ні аднаго тэлефоннага званка! Ну, што гэта на самай справе — здзек ці што?! Вечарам патэлефанаваў сам...

*/да урбанізацыі душы/*

Ідучы да свайго, не тапчы чужога.

Агромністы Брыль усё ж вытыркаецца са сваіх мініяцюраў.

*/чытаючы яго/*

Міхась Скобла запрашае на сваю вечарыну пародыі і просіць, каб, крый Божа, не смяяўся. Маўляў, так задумана па сцэнарыі. Дзівак, няўжо ён дачасна ўпэўнены, што я буду смяяцца?

Пісьмянкоў незадаволены, што на вокладцы новай кніжкі мастак выканаў назоў «ПЛАНІДА» не прасталінейным шрыфтам, а пакручастым... «Лёс, часцей за ўсё, і бывае такім», — кажу яму, суцяшаючы. Не, бачу, незадаволены... Можа, і сапраўды лёс яго просты... Бывае...

Левым вокам чытаю Адама Глобуса, а правым падсвядома «страляю» на эратычны фотаздымак Алены Адамчык. Дзякуй Богу, левае ў мяне — 1,0, а правае — 0,1... Але хто мне паверыць?!

Творца і літаратар адрозніваюцца тым, што адзін жыве для таго, каб пісаць, а другі піша для таго, каб жыць.

*/перачытайце яшчэ раз, варыянтаў многа/*

Апоўначы тэлефануе кум. Усхопліваюся са сну, намацваю рукою трубку. Павітаўшыся, пытаецца, колькі цяпер часу... Раздражнёна кажу, што дзве гадзіны ночы! Спагадліва спачувае: «Што, дзядзька, і ў цябе бяссоніца?»

— ??????

...Аднойчы ў Крывошынскай псіхушцы, куды мяне закінулі «на лячэнне ад алкагалізму», я начаваў першыя тры ночы з шызафрэнікамі. Вядома, не спаў. У спальным блоку гарэла сіняя лямпа, а да таго ж, нада мною ўсю ноч стаяў шызік і, дзіка пасміхаючыся, глядзеў мне ў твар... Я ляжаў як утрапёны, не ведаючы што рабіць, але гэтага не ведаў і шызік, таму стаяў нада мной усю ноч і пасміхаўся... Ранкам, пасля адпаведных уколаў, ён настойліва са мной пазнаёміўся, каб наступнай раніцай... знаёміцца зноў...

Чамусьці гэты выпадак успомніўся мне пасля кумавага начнога званка. Трэба было б яму распавесці гэтую гісторыю і пра ягоны начны званок нагадаць таксама...

«Гэткая ўжо прырода слова: гаворыш на сваёй мове, а пішаш на чужой. Адсюль я раблю такую выснову, што ўсе мы ў нашым рамесніцтве адным мірам мазаныя: усе катаржнікі, усе кляймёныя».

*/Жан Поль Сартр, «Словы»/*

«Пісаць па-народнаму вельмі нялёгка. І не лішне трэба крыўдаваць, што людзям цяжкай працы і няшчодрага хлеба не падабаюцца гладкія морды...»

*/Янка Брыль, «Свае старонкі»/*

Чым родняцца і чым розняцца гэтыя дзве цытаты вядомых пісьменнікаў? Родняцца яны вонкавым зместам, а розняцца ўнутраным сэнсам...

«Кветкі лятаюць вакол матылькоў», — вусная творчасць чатырохгадовай дачкі. Выклікае, хоць і супярэчлівы, але імгненны водгук. А скажы яна: матылькі лятаюць вакол кветак... Які банал! Ні адна душа не страпянецца. Неардынарнае бачанне альбо ўяўленне свету — гэта ўжо знак асобы.

*/гуляючы ў Зялёным Лузе/*

Калі хварэе маці, то востра адчуваеш,

Бацькаўшчыны. Нельга рабіць выгляд, што справа гэтая — выключна справа самой эміграцыі.

Калі палітычнае жыццё Беларусі — болей справа грамадзян Беларусі і ўскосна — жыхароў дыяспары /чый абавязак — быць добрасумленнымі грамадзянамі тых краін, дзе яны жывуць/, дык зусім іншая справа — беларуская культура. У якім кутку свету ні жылі б беларусы — гэта іхняя агульная справа. Вось чаму мяне і непакоіць будучыня беларускіх культурных цэнтраў, створаных выдатнымі дзеячамі эміграцыі.

Урэшце й сфармуляваліся ў мяне канкрэтныя прапановы.

I. Пад эгідай фонду «Адраджэнне Беларусі» стварыць Сусветную Асацыяцыю беларускіх культурных цэнтраў з наступнымі задачамі:

1/ падтрымка культурнага і мастацкага жыцця беларускай эміграцыі /тое, дзеля чаго яны і былі створаны/;

2/ быць праваднікамі здабыткаў культурных каштоўнасцей беларусаў замежжа для беларусаў на радзіме;

3/ стаць апорнымі пунктамі для ажыццяўлення культурных акцый з Беларусі для эмігрантаў;

4/ стаць праваднікамі беларускай культуры ў асяроддзі тых народаў, сярод якіх жывуць беларусы;

5/ стаць праваднікамі культуры тых народаў, сярод якіх жывуць беларусы, для беларусаў на радзіме.

Словам, трэба стварыць структуру накшталт Інстытута імя І. В. Гётэ /Германія/, але з больш вялікім полем дзейнасці.

II. Для стварэння Асацыяцыі склікаць канферэнцыю кіраўнікоў беларускіх культурных цэнтраў летам 1994 года ў Мінску. З боку нашай дзяржавы мэтазгодна прадстаўніцтва міністэрстваў: замежных спраў, культуры, інфармацыі, фінансаў, асветы; далей: Акадэміі навук, Нацыянальнага культурна-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны, кіраўніцтва адпаведных камісій Вярхоўнага Савета, Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына». А таксама — асобных выдатных дзеячаў культуры і мастацтва як на радзіме, так і на эміграцыі.

Любіць радзіму і вярнуцца жыць на радзіму — рэчы розныя. Большасць тых, хто жыве за межамі Беларусі, не зможа вярнуцца сюды з-за аб'ектыўных ці суб'ектыўных прычын. Асіміляцыя можа зрабіць іх ды іхніх нашчадкаў немцамі, французамі, амерыканцамі, бразільцамі, рускімі і г. д. Гэта была б вялікая страта для Беларускай дзяржавы. Але праз культуру беларусы застануцца беларусамі — гэта, відавочна, адзіны шлях. Другога няма, а таму супольны наш абавязак — стварыць умовы для арганізацыі Асацыяцыі беларускіх культурных цэнтраў у сусветным маштабе.

**Віктар СКОРАБАГАТАЎ**

---

Краснабаева, які іранізуе са свайго героя, спачувае яму і, урэшце, уздымаецца да сапраўдных трагедыйных вышынь. Акцёр нібыта праз сябе прапускае ўнутраны свет персанажа, яго перажыванні і пакуты. Вакол яго — пустэча. І пустэча ўнутры героя. Дарэмна ён спрабуе знайсці адказы на пакутныя пытанні, марна спрабуе спазнаць тайну існасці. Сустрэча з Панначкай адкрывае яму таямніцы Сусвету: ён пачынае бачыць небяспечнае, чуць непачутае. Выканаўца нібы сцвярджае, што чалавек, адасоблены ад прыроды, ад самога сябе, як яе часткі, знаходзіць небывалую моц у злучэнні з ёй. Ды не змогшы адолець унутраную адчужанасць, пустэчы душы, гіне, стаўшы ахвярай уяўнага Святла, уяўнага Кахання, уяўнага Бога.

Мастацкая прастора спектакля нагадвае сапраўднае Пекла, Апраметную. Гэта своеасаблівая рэжысёрская метафара — знак нашага свету, пазбаўленага гармоніі і прыгажосці. Рэжысёр Віктар Куржалаў перанёс герояў, нібы той Харон, у «іншы свет», у «другое вымярэнне». Шчыра скажам, прыём не новы: і ў драматургіі, і ў тэатры такое ўжо было /прыгадаем п'есу Ж.-П. Сартра «За зачыненымі дзвярыма»/. На гэта ўказваюць толькі асобныя рэжысёрскія метафары: вялікая шафа-«труна», падзеленая на пэўныя ячэйкі, у якіх размяшчаюцца персанажы /акрамя Хамы Брута/ ці шэрыя лахманы на жэрдках, з якіх, нібы тыя прывіды, выходзяць Хвеська, Яўтух, Дораш.

Калі ўжо быць да канца аб'ектыўным, то п'еса Ніны Садур не дае аніякіх падстаў для такога прачытання: яна пра жывых людзей. Рэжысёр значна перапрацаваў драматургічны матэрыял, скараціўшы цэлыя сцэны /дарэчы, і такую выдатную, як «палёт» Хамы і Панначкі/, адмовіўся ад «лішніх» персанажаў. Магчыма, сапраўды, у творы, не прызначаным для малой сцэны, нешта трэба было мяняць, карэкціраваць, але ў дэталях, не знішчаючы сам грунт. А ў выніку сэнс спектакля аказаўся занадта зацямнёным, асабліва ж для непадрыхтаванага гледача. Акцёры, звыклыя працаваць у рэчышчы псіхалагічнага тэатра, не здолелі адаптавацца ў складанай сімволіцы «Панначкі», не змаглі «выцягнуць» рэжысёрскую канцэпцыю.

Спектакль «Панначка», не стаўшы ўдачай, яшчэ раз сцвярджае аксіёму пра недапушчальнасць бессэнсоўнага грэбавання, нетактоўнага, пагардлівага стаўлення з боку рэжысуры да літаратурных першакрыніц. І ўсё ж новыя, эксперыментальныя шляхі коласаўцаў не могуць не стаць плённымі.

**Юрась ІВАНОЎСКІ**

---

# ПАВОДЛЕ АКЦЁРСКАЙ ІНІЦЫЯТЫВЫ



*Вольга КЛЕБАНОВІЧ на рэпетыцыі.*

Вольга Клебановіч і Уладзімір Шэлестаў вядуць рэй у новым спектаклі Рускага тэатра Беларусі «Ад'ютант-ка яго вялікасці» І. Губача. Дзіўнаватае напісанне назвы тлумачыцца пошукам дадатковых сродкаў уздзеяння на гледача, і таму калі на адной з рэпетыцый гераіня Вольгі Міхайлаўны адметна прадставілася персанажу Аляксандра Ткачонка, злоснаму губернатару вострава Святой Алены, адначасова спыняючы ягонае супрацьдзеянне: «Адьютант... Ша! его величества...» жэстам пазначыўшы — не чапай! — інтанацыя актрысы воляю пастановачнай групы пазначыла сабою інтрыгу афішы...

Паміnanне пра востраў Святой Алены адразу ж, мабыць, выдала і на час, на героя дзеяння: так, спектакль-фантазія прысвечаны Напалеону і ягоным апошнім гадам ва ўладзе англійскае кароны. Ролю Напалеона іграе Уладзімір Шэлестаў, ягоных генералаў Гурго і Бертрана ўвасабляюць, адпаведна, Аляксандр Брухацкі ды Вячаслаў Саладзілаў, імпэтнага кухара-італьянца, у якога з-пад носа ці то пацукі прадукты цягаюць, ці то якія іншыя істоты, прадставіў Віктар Гудзіновіч; іхняму незайздроснаму жыццю ў доўгім вязенні надаюць прыкрасці ды гумару памянёны ўжо губернатар Аляксандра Ткачонка і капітан аховы з шатландскім прозвішчам Поплтан, які, радуючы публіку, бесперапынна рапартуе і зухавата франціць у спадніцы-кілце — стараннем, трэба дадаць, Андрэя Дударава.

Дарэчы, ініцыятарамі стварэння спектакля зрабіліся самі акцёры, праўда, слушна вырашыўшы, што рэжысёру варта-такі прыкласціся да іх самастойнага намеру. Рэжысёрам быў абраны Мадэст Абрамаў, мастаком запрошаны Веніямін Маршак. Песня пра ганарлівага карсіканца нарадзілася дзякуючы кампазітару Рыгору Уласюку. Над танцавальнымі нумарамі пашчыравала Галіна Шылянкова-Воранава. Плён агульнае працы застаецца толькі пабачыць на ўласныя вочы...

*Фота Аляксея ІЛЛІНА*

---

які ты адзінокі ў гэтым шматмільярдным свеце...

*/пасля тэлефоннай размовы з сястрою/*

Усе людзі страшныя эгаісты, хоць, канечне ж, і не прызнаюцца ў гэтым. Нават Богу пакланяюцца дзеля ўласнай пасмяротнай карысці.

Карані чалавечнасці гняздзяцца ў нашым сумленні. А дзе гняздзіцца сумленне? У пластах геннай памяці...

Бабкоў — нацыяналіст еўрапейскага ўзроўню...

*/іранічна падумалася/*

Прачытаўшы «Стомленасць Парыжам» Дранько-Майсюка, адчуў элегантнасць, вытанчанасць, галантнасць, інтэлігентнасць айчыннага слова... Мне, не зжыўшаму вясковай стрыманасці, было ўсё ж наўскрай нясцерпна падгледзець інтымныя сувязі ўзнёслых слоў... Як не ўспомніць да гэтай эстэтычнай згадкі на карысць нашай мовы падслуханае ў гаворцы маладых суседак з бацькам: «Татачка, ды мы на ўсё здатныя, было б для каго...»

*/чытаючы NN 6, 7 «Крыніцы» за 1993 г./*

Прагледзеў столькі вершаваных зборнікаў, выдадзеных за свой кошт, і нічога, што тычыцца Паэзіі, не знайшоў. Такая бяздарнасць і няздатнасць, відаць, і ад таго, што ганарар у аўтараў быў у кішэні яшчэ да напісання... Гавораць, што ПАЭЗІЯ і ГРОШЫ — рэчы несумяшчальныя, а па мне, дык наадварот — несумяшчальныя ГРОШЫ і ПАЭЗІЯ. Ёсць, як кажуць, відавочная розніца.

У паэзіі няма ні тэорыі, ні практыкі... Бо іначай — як жа з нерукатворнасцю!?

Ёсць кніжкі, якія нельга не чытаць, і кніжкі, якія чытаць нельга... Аднак духоўны набытак чалавецтва палягае не ў гэтых кніжках, а ў чытачах, якія прачытаюць ці не прачытаюць тую ці гэтую кніжку... Кніжкі ўжо напісаныя, а чытачы яшчэ вагаюцца... І свет не мае пэўнасці...

*/разважанні ў камерцыйным аддзеле кнігарні/*

Чалавека колькі заўгодна і як заўгодна можна любіць альбо ненавідзець — усё адно Ён пераменіцца не ад гэтага.

*/пасля сямейнага канфлікту/*

Кожны з нас — свядома ці падсвядома — любіць сябе, не асабліва спадзеючыся на іншых.

*/пасля размовы з сябрам/*

Толькі тое і немагчыма, чаго прагнеш бескарысліва...

*/паўсядзённая думка/*

У рэцэнзіі Галі Тычкі вычытаў цытату з Г. Гесэ: «Паэт дзейнічае на чытача не сваёю якой-небудзь адметнай асаблівасцю — тэхнікай, густам, розумам, а тым, з якой сілай і дасканаласцю ён выказвае незвычайнасць свайго характару».

Тут, безумоўна, ёсць драбніца солі, калі, напрыклад, згадаць нашых Купалу, Караткевіча, Сыса... Аднак ёсць і супрацьлеглыя не менш вабныя выбітнасці, як Багдановіч, Стральцоў, Разанаў, Мінкін, Дранько-Майсюк...

Паэзія месціцца і ў асоце і ў пахучым кветніку — быў бы талент Пчалы, а не Трутня...

На вечарынах у Доме літаратара заўжды адна і тая ж публіка — і ў зале, і на сцэне... Сустрэўшы выпадкова незнаёмы твар, бянтэжышся: ці не з КДБ таварыш!?

Дажыліся!!! Члены праўлення Літфонду абедаюць за свой кошт...

Не самоцься, Сыс! Цяпер большасць пісьменнікаў выносяць з бара... нават калі выносяць на могілкі...

*/вядомае ўсім/*

Найбольш спрыяльны рэжым жыцця для такога самотніка, як я, — таталітарны...

*/вызнана на працягу ўсяго жыцця/*

Ненавіджу грошы, за якія купляюць. Шаную грошы, якія аплачаны.

*/у дзень «дэвальвіраванай» зарплаты/*

Наконт мяккага знака я, можа, і пагадзіўся б, але навошта змякчаць ЦЬВЁРДЫ?..

*/вакол пытання пра «ь»/*

Мне здаецца, што мы часта пішам і гаворым пра той народ, якога даўно няма і ніколі не будзе...

О, наша хваравітае трызненне! І не так нацыянальнае ў нас пакрыўджана, як — чалавечае...

Клецкая міліцыя мяне не «цаніла»: то суткі, то псіхушка, то спецлячэнне... Мае вершы не выклікалі ў іх спагады.

А вось слуцкія сяржанты!..

...Атрымаўшы аванс за першы свой паэтычны зборнік і добра адсвяткаваўшы ў Менску, я паехаў на таксі /!!!/ ў Слуцак. Там двойчы за адзін вечар трапіў у КПЗ. Двойчы чытаў свае вершы ў выцвярэзніку... пасля чаго, без штрафаў і доўгай затрымкі, быў прыведзены сяржантам на кватэру да майго дзядзькі. «Вершы пісаць умее, а піць — не!» Такі быў строгі сяржанцкі вердыкт. У Вароніна я прыехаў амаль без грошай, на якія можна было б жыць не менш года...

Сяржант быў шчыры і праўдзівы. Яшчэ папрактыкаваўшы гадоў тры, я кінуў гэты няўцямны для мяне занятак.

А слуцкага сяржанта помню. Ён якраз піць умеў, і не мог трываць дылетантаў у гэтай святой славянскай справе...

А-у! — сяржант. Нізкі паклон...

*/адвяргаючы прапанову Клецкага райсавета аб супрацоўніцтве пры напісанні кніжкі «ПАМЯЦЬ»/*

Жыць хочацца заўсёды, нават замысліўшы самагубства...

*/з даўняй практыкі/*

Смерць зближае людзей...

*/з роздуму на могілках/*

Можна хадзіць босым па гарачых вугалях, а памерці ад саракаградуснай тэмпературы.

Літаратура — гэта адчай няспраўджанага чалавецтва.

*/думаючы пра сябе/*

Я — вандроўнік, які далёка ад сябе не адыходзіць...

Калі чалавек не заўважае сябе ў натоўпе, то ці распазнае сябе сам-насам?

Пішу — і ўспамінаю сябе...

О, калі б я ведаў, што я напішу, то я не пісаў бы!

Зямля — замглёная, неба — неабходнае...

*1986—1993 г.г.*
*Вароніна — Масква — Менск.*

## ДЗЕЛЯ СПАЗНАННЯ ЛЁСУ...



**Неўзабаве творчае аб'яднанне Беларускага тэлебачання «МЭТА» /больш вядомае ў абыходку як рэдакцыя літаратурна-драматычных праграм/ і TV-тэатр АВВА, утвораны леташнім жніўнем, прадставяць гледачам сваю першую работу: «Жалоба — лёс Электры» паводле Юджына О'Ніла. Аўтар тэлевізійнай версіі і рэжысёр-пастаноўшчык — Уладзіслаў Осіпаў, тэлерэжысёр — Галіна Сакалова, рэдактар — Валерыя Скварцова. Пераклад ажыццявіў Алесь Асташонак. У ролях заняты прадстаўнікі нацыянальнай і рускай сцэн Беларусі Ганна Маланкіна, Аксана Паравожкіна, Аляксандр Ждановіч, Валерый Бандарэнка, Віталь Рэдзька; пецярбургская актрыса Вольга Левашова выконвае ролю Крысціны, а знанаму Юрыю Ступакову выпала роля Эзры... Шчаслівага лёсу такому сукведцю...**

*На здымку: Віталь Рэдзька /Орын/ і Ганна Маланкіна /Лавінія/.*

*Фота Галіны МАСКАЛЁВАЙ*

## «ДИАЛОГ...» ЗАПРАШАЕ ДА... ДЫЯЛОГА

**Як мы паведамлялі ўжо, з мінулага года ў Віцебску выходзіць часопіс «Дыялог. Карнавал. Хранатоп». Ініцыятарам гэтага выдання, што даследуе жыццёвы шлях і тэарэтычную спадчыну знакамітага М. Бахціна, выступіў дацэнт кафедры літаратуры Віцебскага педагагічнага інстытута М. Панькоў. Часопіс наладзіў кантакты з вядомымі бахціназнаўцамі ў блізкім і далёкім замежжы. На сённяшні дзень у рэдкалегію «Дыялога...» ўваходзяць вучоныя з ЗША, Канады, Германіі, Польшчы, Вялікабрытаніі, Расіі.**

**Нядаўна пабачыў свет другі нумар часопіса — у рускамоўным і беларускамоўным варыянце /адпаведна дзве тысячы і пяцьсот адпаведнікаў/. Нумар змястоўны. У раздзеле «Тэарэтычныя даследаванні» вылучаецца артыкул Г. Косікава «Да тэорыі рамана /раман сярэднявечны і раман новага часу/». У. Лаптун і М. Панькоў удакладняюць моманты з біяграфіі М. Бахціна віленскага і адэскага перыядаў /раздзел «Архіўныя пошукі»/.**

**Прапануюцца неапублікаваныя работы М. Бахціна, у прыватнасці яго «Лекцыі па рускай літаратуры /1922—1927 гг./», ёсць успаміны. А на завяршэнне нумара — артыкул Д. Сімановіча «Дарога вяртання. /Шагалаўскія дні ў Віцебску/».**

**«Дыялог...» задумваўся як квартальнік, але... Каб выйшлі два першыя нумары, дапамаглі камерцыйная фірма «ПРОСТ Лтд» і Акцыянерская страхавая кампанія ВітАСКА. Прытым беларускамоўная частка накладу пакуль яшчэ не выкуплена з друкарні. Таму «Дыялог...» запрашае да... дыялога. І не толькі аўтараў, чытачоў, а і тых, хто можа дапамагчы часопісу выжыць. Грашовыя пералічэнні трэба накіроўваць на разліковы рахунак N 100609286 у Віткамбанку МФО 150801701.**

## НЕ ПЕРШЫ ГОД

**выдавецтва «Полымя» выпускае серыю «Нашы славутыя землякі». Але дагэтуль у ёй, як правіла, выходзілі невялікія зборнікі, якія хоць і прываблівалі багаццем фактычнага матэрыялу, але надта ж яны «не глядзеліся». Чарговая ж кніжка ў згаданай бібліятэчцы, як кажуць, і чытаецца, і глядзіцца. Ды і памер яе на раман «цягне».**

**Што ж, маскоўскі пісьменнік, Віталь Гузанаў даўно займаецца вывучэннем жыцця і дзейнасці нашага знакамітага земляка Іосіфа Антонавіча Гашкевіча. Таго самага Гашкевіча, які валодаў трынаццаццю замежнымі мовамі, стаў першым рускім консулам у Японіі, склаў японска-рускі слоўнік. Пра І. Гашкевіча і расказваецца ў кнізе «Адысей з Беларусі», багата ілюстраванай, з густам афорбленай. А пераклаў яе на беларускую мову Янка Саламевіч.**

Беларускае замежжа

# «... ЯГО ЗАГУБІЎ НЯДОБРЫ ЧАС»

Юрка Геніюш... Сын незабыўнай Ларысы Антонаўны Геніюш. А да ўсяго — пісьменнік і чалавек чулай душы, да самазабыцця ўлюбёны ва ўсё беларускае. Пісаў вершы, фельетоны, апавяданні, артыкулы. Друкаваўся ў «Беларускім календары», што выходзіць у Беластоку, на старонках газеты «Ніва», у некаторых выпусках літаратурнага аб'яднання «Белавежа».

Развітаўся з жыццём у 50-гадовым узросце, калі яшчэ сама жыць і тварыць. Не стала яго 20 лістапада 1985 года. Як сведчыць Сакрат Яновіч, які добра ведаў Ю. Геніюша, «будучы па сваёй натуры паэтам, ён балюча перажываў бясслаўную эпоху, прытым нажыўшы сабе ворагаў сярод грубаскурных здаволенцаў і наменклатурных паноў. Выхаваны ў стараеўрапейскай Празе і маючы бацькоў патомных інтэлігентаў, не паддаваўся муніпуляцыі». С. Яновіч робіць вывад: Яго згубіў нядобры час!».

Словы С. Яновіча вынесены на чацвёртую старонку вокладкі кнігі Ю. Геніюша «З маёй званіцы», што пабачыла свет у Беластоку. А адкрываецца зборнік здымкам МАЦІ і СЫНА і радкамі Ларысы Антонаўны:

**Гаварыць па-беларуску гэта модна,**
**Мовы маці, кажуць, не забыць,**
**Для мяне ж гэта не модна, толькі родна,**
**Гэта так, як піць, як есць, як жыць...**

Пісаць для Ю. Геніюша з'яўлялася душэўнай патрэбай. Тым больш на мове, чароўнасць якой адчуў з маленства. У зборніку «З маёй званіцы» прадстаўлена толькі частка яго спадчыны, прытым празаічнай. Гэта — фельетоны, гумарэскі, невялікія апавяданні, навелы. А што Ю. Геніюш валодаў талентам гумарыста, сумнявацца не даводзіцца. Узяць хоць бы гумарэску «Скарбы на сметніку». Нехта Чыкчырыкін захапляўся калекцыяніраваннем розных ступак: «Такія, ведаеце, звычайныя, у якіх нашы бабкі перац, лаўровы ліст і іншае зелле таўклі». А тут хлопец даведаўся, «што мае адна цётка ў вёсцы... ступку якраз такую, якой яму яшчэ прыдбаць не ўдалося». Ён да жанчыны: «А цётачка, а золатца, а хочаце — грашыма заплачу, а хочаце — млынок вам куплю... Вось гэту толькі ступку мне аддайце». Скупой аказалася цётка. Чыкчырыкін, адчуўшы, што яе не ўлагодзіць, «хоць за падвойную цану» згодны прыдбаць рэдкі экземпляр ступкі. «Нешта ў ступцы ў сярэдзіне!» — падумаўшы так, цётка пазвала мужа і ... ступка развалілася на кавалкі!

Гумарэскі ў зборніку пераважаюць, «сур'ёзных» твораў менш, ды ў дадзеным выпадку не колькасць важна, а якасць. Важкі сэнс, напрыклад, закладзены ў аснову свайго роду прытчы «За што кахаю? Чаму пра цябе адно мару? Найхарашэйшая мая! Казачная! Адзіная...», прысвечанай Ю. Геніюшам бацьку. Сабралася моладзь на лаўцы, просіць старога Рыгора што-небудзь пра каханне. І пачаў дзядуля аповяд: «Ну, добра! Раскажу вам пра тую, якая першай маё сэрца запаланіла. Пра тую, якую я ўсё жыццё кахаў і да астатніх дзён кахаць буду. З усіх найхарашэйшую. Адзіную!»

Расказвае Рыгор, а моладзі, асабліва дзяўчатам, не церпіцца, хто ж яна такая, якую болей за ўсіх любіць стары. «Ой, ведаць, дзеткі, добра ведаеце, — паківаў галавою Рыгор. — Толькі так, як і я калісьці, яшчэ прыгледзецца да яе па-сапраўднаму і ацаніць яе не паспелі. Гэта ж краіна наша родная. Зямля бацькоўская. І паверце мне, старому, што калі наогул магчыма на гэтым свеце вечна кахаць каго, дык толькі адну яе, Родную. І ў ёй напэўна не расчаруецеся...»

З гэтай прытчай пераклікаецца і казка /а мо таксама прытча/ «Вярніце Януку голас»: «Быў у нашага Янука галасок, як той званочак. Вяртаецца Янук, бывала, са школы, дык у другім канцы вёскі яго чутно... А тут, маеш табе, бяда: прапаў, разумееце, у хлапца голас». Што ні рабілі — маўчыць хлопец. Пэўнасць унесла бабка Хітрынская: «Сяджу я сабе, ведаеце, аднойчы, каля аўтобуса, на лавачцы... І вось паненка якаясьці, модная такая, увагу яму звяртае, чаму гэта ён па-свойму, па-беларуску, значыцца, гаворыць. Дурны ён яшчэ ў вас. Мовы роднае застыдаўся. Язык, бы дугу, у другі бок сагнуць захацеў. Вось і трэснула ў ім, пэўна, нешта. Голас выскачыў, загубіўся недзе. Не ўмеў яго шанаваць, ды шукай ты яго цяпер ліха ведае дзе і як». Урэшце пайшоў «Янук з першымі праменнямі сонца на той самы прыпынак, заклікаць той голас, з душы цэлай маліць, каб вярнуцца захацеў — дараваў тую крыўду». Вярнуўся ранейшы голас да Янука!

Вярнуўся?! А ці вернецца ён да тых беларусаў, хто адцураўся, засаромеўся роднай, матчынай мовы? Уласна кажучы, гэтым роздумам і прасякнуты шмат якія творы Ю. Геніюша. Ён верыў у вяртанне. Верыў і вераю гэтаю жыў. Пакуль і не загубіў яго нядобры час.

**А. М.**

# ЗАБІЦЬ, КАБ МАХНУЦЬ НА ПОЎДЗЕНЬ...

*(Пачатак на стар. 5)*

раённым аддзелам адукацыі. Бо падлеткаў трэба выхоўваць. У міліцыі на гэта не хапае часу. Ды міліцыянер — гэта ўсё ж яшчэ не выхавацель.

**— Вам, Уладзімір Кандратавіч, відней. Але, на мой погляд, у гэтай справе не ўсё так адназначна. У тым, што менавіта міліцыя займаецца прафілактыкай правапарушэнняў сярод падлеткаў, ёсць свае плюсы і мінусы. Да мінусаў я б аднёс тую акалічнасць, што многія падлеткі, якія ўзяты на ўлік у міліцыі, нават ганарацца гэтым, ганарацца, як нейкай адзнакай іх даросласці, гэта павышае іх аўтарытэт сярод такіх жа падшыванцаў, як яны. Я гэта бачу на прыкладзе дома, дзе жыву. Ёсць тут падлетак, якога за хуліганства незлічоную колькасць разоў дастаўлялі ў апорны пункт міліцыі, але выходзіць ён адтуль героем, заўсёды акружаны гуртам хлапчукоў, што глядзяць яму ў рот.**

**Што датычыць «плюса», дык, пагадзіцеся, адна справа, калі бацькоў выклічуць у міліцыю і там пастрашаць за няўвагу да ўласных чадаў, другая — калі па такой жа справе паклічуць у райаддзел адукацыі. Гэта, бадай, тое самае, што ў школу. І калі ў міліцыі да тых жа, скажам, пітушчых бацькоў могуць быць ужыты пэўныя карныя меры, а гэта палохае, дык як можа ўздзейнічаць на іх, на іх дзяцей тое ж райана?**

— На адным страху далёка не паедзеш. «Цяжкі» падлетак мае патрэбу перш за ўсё ў дапамозе педагога, а не міліцыянера.

**— Ну, а камісіі па справах непаўналетніх пры райвыканкомах? Якая ва ўсіх гэтых справах іх роля?**

— Я б сказаў, што раней гэтыя камісіі працавалі досыць эфектыўна. Да працы ў іх прыцягваліся педагогі, псіхолагі, урачы, яны маглі кваліфікавана разабрацца ў гісторыі падлетка, які трапіў да іх. Камісіі і вырашалі, каму хопіць і простага ўшчування, а каго трэба ізаляваць ад грамадства, каб ён не пайшоў далей па злачыннай сцежцы.

**— Але чаму вы гаворыце пра гэтыя камісіі ў мінулым часе?**

— Таму што падлеткамі-правапарушальнікамі цяпер будуць займацца суды. Лічыцца, што толькі суд мае права вырашаць іх лёс. Калі мець на ўвазе Сусветную дэкларацыю па правах чалавека, дык гэта правільна. Але ж трэба не забываць, што прафесійны ўзровень многіх суддзяў яшчэ пакідае жадаць лепшага. І потым, судзіць дарослага і судзіць падлетка — не адно і тое ж. Тут павінны быць розныя падыходы. Зняволенне мала каго зрабіла лепшым. Пра гэта нельга не думаць, калі на лаве падсудных сядзіць хлапчанё, у якога, як кажуць, яшчэ мацярынскае малако на губах не абсохла.

**— Відаць, дзіцячай злачыннасцю павінны займацца спецыяльныя суды, дзе б і засядацелі падбіраліся з ліку педагогаў, спецыялістаў па дзіцячай псіхалогіі і да т. п.?**

— У прынятым нядаўна Вярхоўным Саветам рэспублікі Законе аб абароне правоў дзіцяці прадугледжана стварэнне менавіта такіх судоў. Але ж не так проста ўсё гэта здзейсніць, асабліва, калі ўлічыць крайнюю неўкамплектаванасць судзейскімі кадрамі існуючых народных судоў.

**— Вы, Уладзімір Кандратавіч, я гляджу, прыхільнік ліберальных адносін да непаўналетніх злачынцаў.**

— У іх усё жыццё наперадзе...

**— Ці вялікі сярод гэтай катэгорыі злачынцаў працэнт паўторных правапарушэнняў, карацей — ці шмат сярод іх рэцыдывістаў?**

— Не больш, чым сярод дарослых. У 1993 годзе з 8 тысяч асуджаных падлеткаў /у тым ліку асуджаных умоўна, з адтэрміноўкай прымянення пакарання/ паўторна прыцягваліся да крымінальнай адказнасці 1116 чалавек.

**— Нямала. Значыць, не вельмі баяцца яны таго пакарання. У Бабруйскай працоўна-выхаваўчай калоніі, пра якую я ўжо ўзгадваў, рэжым мне падаўся досыць ліберальным. Зняволеныя падлеткі пры мне ганялі ў футбол, ці не кожны дзень ім паказваюць кінафільмы, ёсць у калоніі сярэдняя школа. Ды і кормяць нядрэнна. Ва ўсякім разе, не горш, чым салдат у арміі...**

— Вы хацелі, каб іх там марылі голадам?

**— Я хацеў, каб у падлеткаў, якія адбываюць пакаранне, выпрацоўваўся сіндром страху перад магчымасцю трапіць у калонію зноў. Я чытаў, што ў некаторых штатах ЗША крымінальныя кодэксы дапускаюць прымяненне смяротнага пакарання і для дзяцей, якія здзейснілі жорсткія забойствы.**

— Я супраць такіх надзвычайных мер. І наогул, культывацыя страху перад пакараннем, хай і смяротным, ніколі не з'яўлялася надзейнай «прывіўкай» супраць такой небяспечнай хваробы, як злачынства. Прынамсі, даўно заўважана, што смяротнае пакаранне /там, дзе яно прымяняецца/ не ўплывае істотна на колькасць цяжкіх злачынстваў, у тым ліку і тых, што суправаджаюцца смерцю ахвяры.

**— Асабліва, калі вынесены смяротны прысуд, фактычна, не прыводзіцца ў выкананне...**

— Памылковая думка. У пераважнай большасці выпадкаў у асуджанага да смерці злачынцы шанцаў застацца ў жывых няма.

**— Дзякуй вам, Уладзімір Кандратавіч, за гутарку.**

# ДУНІН-МАРЦІНКЕВІЧ І ПІНСКАЯ ШЛЯХТА

## СПРОБА ЛІТАРАТУРНАГА АДКРЫЦЦЯ

Уладзімір ЛІПСКІ

Пачатак у нумары за 11 лютага.

### ШЛЯХ ДА «ЛЕБЯДЗІНАЙ» П'ЕСЫ

Наступным, пасля Панюшкавіч і Бабруйска, жыццёвым прыстанішчам для Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча стала Вільня. Як вядома, ён там вучыўся ў базыльянскай бурсе, а пасля — ва універсітэце.

Па сённяшні дзень існуюць здагадкі: ці то Вінцэнт паступаў у Віленскі універсітэт, ці то ў Пецярбургскі. Удакладненнем гэтага факта я не займаўся, але сваё меркаванне выказаць магу.

16 мая 1816 года цар Аляксандр I піша праасвяшчэннаму мітрапаліту Сестранцэвічу:

«По случаю смерти Виленского Администратора Епископа Иеронима Стройновского Всемилостивейше повелеваем быть Вам впредь до повеления Администратором оной Епархии с сохранением настоящего звания Архиепископа Могилевского и Митрополита всех Римско-Католических церквей в России...

Пребываю Вам всегда Благосклонной.

На подлинном собственною Его Императорского величества рукою подписано тако: Александръ».

Гэтым жа ўказам цар «повелел» даплачваць Сестранцэвічу 10 тысяч рублёў срэбрам у год за новыя службовыя абавязкі.

Улічым яшчэ адзін факт. Пляменнік мітрапаліта тытулярны саветнік Станіслаў Сестранцэвіч пасля смерці дзядзькі ў 1826 годзе перастае быць адміністратарам у Панюшкавічах і пераязджае на жыхарства ў Вільню. І няма ніякага сумнення, што дваюрадны дзед яго, Адміністратар Віленскай епархіі Станіслаў-Богуш Сестранцэвіч, яшчэ пры жыцці сваім, і дзядзька, тытулярны саветнік, жыхар Вільні Станіслаў Сестранцэвіч далі прытулак Вінцэнту менавіта ў горадзе, у якім мелі ўладу і жыллё, у горадзе, які вылучаўся ўжо тады як цэнтр высокай культуры і адукацыі.

Важна згадаць яшчэ аднаго чалавека, які пастаянна дапамагаў асірацеламу Вінцэнту. Ім быў епіскап Мінскай епархіі Мацвей Ліпскі.

Шлях Ліпскага да епіскапа азораны пастаяннай падтрымкай мітрапаліта Сестранцэвіча. Ён прыкмеціў таленавітага духоўніка яшчэ юнаком, калі той быў членам Базыльянскага ордэна. Сестранцэвіч наблізіў яго да сябе, даверыў быць асабістым сакратаром. І пастаянна ўзвышаў Ліпскага па рэлігійнай службовай лесвіцы. Прызначыў яго канонікам Магілёўскай епархіі, пасля — прэлатам, архідыяканам, асэсарам рымска-каталіцкай калегіі. Урэшце Сестранцэвіч дамогся ў Ватыкана высокага сану для Мацвея Ліпскага — епіскапа.

Пры ўсіх званнях і пасадах Ліпскі пастаянна заставаўся асабістым сакратаром Сестранцэвіча, асобай даверанай і набліжанай да спраў, клопатаў і тайнаў мітрапаліта. Думаецца, Сестранцэвіч даручаў свайму сакратару вырашаць пытанні спадчыннасці, дапамогі родзічам, маёмасныя і фінансавыя праблемы.

У жніўні 1826 года Сестранцэвіч паслаў Мацвея Ліпскага з дэлегацыяй у Маскву для ўдзелу ў каранацыі імператара Мікалая I. На такім пачэсным свяце трэба было б прысутнічаць самому мітрапаліту, але яму ішоў дзевяноста пяты год /жыць засталося ўсяго чатыры месяцы/. Вось ён і даручыў ганаровую місію свайму вучонаму сакратару Мацвею Ліпскаму.

Вывудзіўшы з гісторыі такі факт і ўважліва прачытаўшы «быліцу», расказ Навума Прыгаворкі «Халімон на каранацыі», хочацца верыць, што і Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч быў «па блату» ўключаны ў каталіцкую дэлегацыю на каранаванне цара. Яму па тым часе споўнілася васемнаццаць гадоў. Юнацкія ўражанні ад незвычайнай падзеі моцна аселі ў памяці. І калі ён ужо амаль у пяцідзесяцігадовым узросце пачаў пісаць тую «быліцу», то з дакладнасцю відавочцы падрабязна апісаў і дарогу праз Магілёў, Смаленск, Барадзін, Вязьму і саму Маскву, якая «вяселлем кіпела».

У «Халімоне на каранацыі» ёсць такія малюнкі, што іх проста трэба бачыць, каб перадаць чытачу:

**Такая там куча стоўпілася народу,**
**Што памеж галовак лінь ты смела воду,**
**Ды яна да зямлі пэўна не даб'ецца,**
**З галоў людскіх склеен чыста пол,**
**здаецца.**

«Быліца» — як бы даведнік Масквы, дзе пабываў аўтар разам са сваім героем: «на дварэ Крамліна», «у касцёле Успення», «пры Васкрасенскіх варотах», «на Балванца» /Валхонка, старадаўняя вуліца ў Маскве. — У. Л./, «на Вераб'ёвых горах», «Сухаравай башні дзівілісь нямнога...»

У «быліцы» падрабязна апісана, як герой ратуе жанчыну з дзіцём у ашалелым натоўпе. Ён пачуў заклік: «Ратуйце, хто ў бога верыць, добры людзе!» Ён убачыў, што «дзівы нарабілі квасу», і «стаў праціскацца паміж кучы многі». Кінуцца ратаваць у шматлюдным натоўпе жанчыну з дзіцём мог толькі моцны чалавек, з маладой, неўтаймоўнай энергіяй, якога ўзрушыла чужая бяда...

Епіскап Мацвей Ліпскі неўзабаве пасля паездкі ў Маскву на каранацыю ўзначаліў Мінскую каталіцкую кансісторыю. І пасля смерці мітрапаліта Сестранцэвіча ён застаўся вернай жыццёвай апорай для Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, падтрымліваў яго да канца сваіх дзён. Гэты вывад пацвярджаецца фактамі з біяграфіі пісьменніка.

Дзе шукае паратунку закаханы Вінцэнт са сваёй 16-гадовай Юзэфай Бараноўскай? У Мінску, у каталіцкай кансісторыі. Толькі епіскап Ліпскі, верны вучань шаноўнага Сестранцэвіча, мог узяць на сябе смеласць заступіцца за безабаронных маладых. Больш таго, даць Вінцэнту зарабляць на хлеб. Ён уладкоўвае яго то ў архіў сваёй кансісторыі, то на пасаду перакладчыка. У адным з архіўных дакументаў я прачытаў, што дваранін Марцінкевіч «вначале занимался у Епископа Липского делами по Канцелярии и по кабинету, потом переводами, и даже имел хождения по Его поручениям...»

Атрымліваецца, што працоўны стаж Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча складае дзевяць гадоў: з 1831 года, калі ён вяртаецца з Вільні ў Мінск з украдзенай жонкай, і па 1840 год, калі з жыццёвай арэны сыходзіць яго апякун епіскап Мацвей Ліпскі.

Пры жыцці шаноўнага епіскапа ніхто не асмеліўся крыўдзіць ні Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, ні самога доктара багаслоўя і кавалера ордэнаў святой Анны і святога Уладзіміра.

Сямідзесяцігадовы епіскап Мацвей Ліпскі памёр 21 лістапада 1839 года. Праз два месяцы яго пераемнік прэлат Рава, згінаючыся перад губернскімі чыноўнікамі, узбуджае справу па высвятленні прэтэнзій да памёршага епіскапа. Адгалоскі гэтага следства балюча ўдараюць і па Дуніну-Марцінкевічу. У яго адбіраюць ужо выпісаны замежны пашпарт, адмяняюць замежную паездку. І ўсё з той прычыны, што Вінцэнт Іванавіч нібыта павінен даваць паказанні духоўнай камісіі.

Пра гэта ганебнае следства я раскажу крыху пазней. Яно стане больш зразумелым, калі чытач даведаецца пра судзілішча над сям'ёй Іосіфа Цюхая-Ліпскага з ваколіцы Ольпені. Глыбока веру, што менавіта гэты царскі фарс даў штуршок вялікаму майстру Вінцэнту Дуніну-Марцінкевічу ўвасобіць зведанае ў фарсе-вадэвілі «Пінская шляхта».

### «ОЛЬПЕНЬ ТО ЕСТ ДРУГА ВАРШАВА»

Сучасны даследчык жыццяпісу Дуніна-Марцінкевіча, нястомны шукальнік архіўных тайнаў Язэп Янушкевіч здзіўляецца: «Адкуль з'явілася ў пісьменніка дасканалае веданне Масквы, каб так падрабязна і дакладна намаляваць воблік тагачаснага горада ў быліцы «Халімон на каранацыі»? Адкуль драматург ведаў пінскую гаворку і чаму менавіта на ёй напісаў свой лепшы твор — камедыю «Пінская шляхта»? /Прадмова да «Твораў» Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, «Мастацкая літаратура», 1984 год/.

На першае пытанне я выказаў сваю версію. Цяпер справа гісторыкаў удакладніць яе, праверыць. Дапускаю, што Вінцэнт мог і не ездзіць у Маскву на каранацыю цара, а яму пра гэта расказаў, падрабязна і ўзрушана, яго таленавіты апякун епіскап Мацвей Ліпскі. У любым выпадку гэтая таямніца прыадкрыта.

Цяпер — пра другую загадку Дуніна-Марцінкевіча: чаму яго лепшы твор звязаны з пінскай шляхтай?

Пра Палессе, Піншчыну ў мінулым стагоддзі напісана багата кніжак, даследаванняў. Лічылася, што царства лясоў і балот па абодва бакі Прыпяці самае глухое і цікавае па сваёй прыродзе і па ладзе жыцця насельнікаў. Нават грэкі, носьбіты цывілізацыі, былі пераканаsuccessive, што кожны беларус-паляшук абавязкова раз у год бегае ваўком па лесе.



Царква ў Ольпені.

Пінчукоў малявалі замкнёнымі дзікунамі і рэдкімі дзівакамі. Для іх пабываць у павятовым горадзе — падзея! А калі хто з падарожнікаў трапляў у іх паселішчы, то ўжо не шкадаваў фарбаў, каб апісаць побыт балотных людзей, іх гаворку, песні, жарты, загадкі.

Напружце сваю фантазію і адгадайце пару паляшуцкіх прыдумак: «Каб не дзедава рамясло, у бабы па калена б нарасло». Што гэта? Аказваецца, не што іншае, як венік. «Стаіць слуп, а на тым слупе — хата». Ды гэта ж ва ўяўленні пінчука — чалавек!

Пра свае хаты яны прыдумлялі невясёлыя песні:

**В сій хаты**
**Нэма чого даты:**
**Солому товкуть —**
**Пырогы пэкуть...**

І вось сярод балотнага царства з даўніх-даўніх часоў пачалі з'яўляцца астраўкі іншай «цывілізацыі» — шляхецкія засценкі і ваколіцы. У засценках пасяляўся які-небудзь адзін радавод, а ў ваколіцах гуртавалася шляхта з рознымі прозвішчамі. Былі вёскі-«мешанкі», але з умовай, што ў адным канцы селяцца мужыкі, у другім — шляхта.

У адным і другім канцы вёскі з саломы пякуць пірагі, але пагарджаюць адзін адным. У кожнага свае танцы і вяселлі. Хлопец з мужыкоў не мае права браць у жонкі дзяўчыну з шляхецкай сям'і.

**Штоб шляхціч з мужыцкай**
**дачкой ажаніўся!**
**Я ж бы меж сваімі тагды не ўжыўся!**
**Пальцамі бы мяне ўсе вытыкалі,**
**Як ад злой сабакі, чурацца бы сталі!**

*/В. Дунін-Марцінкевіч, «Купала» /*

Аднолькава аруць палетак. У адзін і той жа час сена косяць. Аднаму Богу моляцца. У адной сажалцы ўюноў ловяць. А не дай жа, Божа, шляхціца абазваць мужыком!..

Гэта тэма, як кажуць, ляжала на паверхні. Яна цешыла багатаго. І не думаю, што такі востры і пільны мастак, як Дунін-Марцінкевіч, «клюнуў» на яе, каб «бязлітасна выкрыць пыхаватую забабонную шляхту, самой гісторыяй асуджаную на выміранне, і царскае самадзяржаўе з тупымі прадажнымі чыноўнікамі-кручкатворамі». Не, дарагі Язэпе Янушкевіч, было, відаць, крыху не так. Найперш улічым, што сам Вінцэнт з шаноўнага шляхецкага роду, які пачаўся «з найдаўнейшых часоў». Па-другое, у Дуніна-Марцінкевіча было сваё, адметнае знаёмства з пінскай шляхтай, сваё разуменне іх «пыхі».

Прыгадаем яшчэ раз «Халімона на каранацыі», там ёсць такія радкі:

**Знайце ж, дзеткі, павет Пінскай,**
**Зямля губерніі Мінскай —**
**Вяліка там нізіна;**
**А ўюноў — мае міленькі!**
**Лаві прыполам радзенькі,**
**Што роў, то прыстань уюна!..**

Такія звесткі Халімон атрымаў ад Смаленскага старшыны Стахоўскага: «Базылём яго хрысцілі, Шавалончыкам манілі, ён з Пінска вядзе род свой». Стахоўскі таксама ездзіў на каранацыю, браў з сабой «уюноў ражончык — то ж, брат, царская яда!»

**Так мы ў дальшую дарогу**
**З Базылём вось — хваліць богу! —**
**У адной брычцы пацяглі,**
**І нам было весяленька,**
**Да і кішэні схадненька —**
**Папалам мы кошт вялі...**

Калі праўда, што Вінцэнт ездзіў на каранацыю цара ў Маскву, то апраўдана і тое, што ён пасябраваў менавіта са Смаленскім старшыной. Род жа Дунінаў-Марцінкевічаў зачаўся ў Смаленскім ваяводстве, калі яго прапрародзіч быў «узнагароджаны» маёнткам Марцінкевічы.

А што да ўюноў, то іх хлопцы «дзельна» аплятаілі ў Маскве. Выходзілі ранкам «із квацеры», клалі ў кішэні: «я талакна мяшок, ўюноў Шавалонак». На іх беларускія ласункі аднойчы пакваліліся маскоўскія жулікі...

Уюнамі задобрываецца і Іван Цюхай-Ліпскі з сынам Грышкам перад станавым прыставам Кручковым у «Пінскай шляхце».

«**Кручкоў**. А Цюхай-Ліпскі з сынам ёсць?

**Дзесяцкі**. Цюхай, апроч мёду і рыбы, прыцяг дзесяць вянкоў сушаных баравікоў, а сын яго — капу ражынкаў-уюноў.

**Кручкоў**. Добра, добра! Усё ўпакаваць асцярожна!..»

Як бачым, Дунін-Марцінкевіч даволі «апетытна» згадвае пінскія ўюны. Імі не толькі ласаваліся, а і разлічваліся за падаткі, штрафы, тавары.

Уюны — толькі «нітачка», першыя крокі Дуніна-Марцінкевіча насустрач самабытнаму краю, яго пачатковая цікаўнасць да «царства лясоў і балот» ды іх насельнікаў.

А ключом да стварэння «Пінскай шляхты», верыцца, стала «Справа N 39», заведзеная ў Мінскай Духоўнай кансісторыі па загаду Мінскага губернскага праўлення. Сутнасць яе закладзена ў віхляста-кручкатворнай назве «Об учинении распоряжения к присоединению семейства шляхтича Иосифа Липского, совратившагося из православия в римско-католический обряд».

«Справа» пачата 17 лістапада 1837 года, якраз тады, калі Вінцэнт Іванавіч Дунін-Марцінкевіч дапамагаў епіскапу Мацвею Ліпскаму па канцылярыі і па кабінеце, «имел хождения по Его поручениям». Ганебная валтузня вакол сям'і Іосіфа Цюхая-Ліпскага апісана на 436 старонках і доўжылася... трыццаць тры гады. Пра гэта раскажу асобна ў сваім даследаванні. А пакуль што звернем увагу толькі на адзін факт.

Іосіф Рыгораў Цюхай-Ліпскі, які правінаваціўся перад праваслаўнай царквой, меў пастаяннае месца жыхарства ў шляхецкай ваколіцы Ольпень. Дарэчы, назву ваколіцы мне карцела пачынаць з літары «А», але даведаўся, што спрадвеку, хто там жыве, называюць сваё паселішча з націскам на пачатковае «О».

Дык вось, тая знакамітая ваколіца Ольпень знаходзілася то ў Мазырскім, то ў Пінскім паветах. Цяпер гэта — Столінскі раён.

І яшчэ я ўдакладніў, што Ольпень — радаводная крынічка Цюхаёў-Ліпскіх. У 1513 годзе чэрвеня чацвёртага дня за N 1746 дадзена прывілея Пінскім князем Фёдарам Іванавічам Яраслававічам шляхціцу Івану Паўлаву Цюхаю-Ліпскаму на ўладанне нерухомым маёнткам у ваколіцы Ольпень ляжачае з тым, каб ён, Цюхай, з братамі сваімі ўжываў яго, адбываючы ваенную службу нараўне з «протчими». Цюхаі пусцілі глыбокія карані вакол Іванавага дрэва. Большасць з іх пачыналі і заканчвалі жыццё ў ваколіцы, верна служылі зямельцы, потым здабывалі сабе хлеб. Пра гэты радавод падрабязна апішу ў кнізе пра Ліпскіх.

Цяпер жа звернемся да неўміручай п'есы

(Працяг на стар. 14)

# Мікалай КРУГАВЫХ

10 лютага 1994 года на 68-ым годзе жыцця памёр пісьменнік Мікалай Кругавых.

Мікалай Пятровіч Кругавых нарадзіўся 12 мая 1926 года ў сяле Сярэдні Егарлык Цалінскага раёна Растоўскай вобласці. У 1941 годзе пасля заканчэння сямігодкі пачаў свой працоўны шлях з улікоўца ў калгасе. У 1943 годзе быў прызваны ў Савецкую Армію. Прайшоў вогненныя дарогі Вялікай Айчыннай вайны. Пасля службы на звыштэрміновай вайсковай службе ў Мінску. Скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. Быў членам сцэнарнай калегіі кінастудыі «Беларусьфільм», у 1976—1978 гг. — кансультант Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Узнагароджаны ордэнам «Айчыннай вайны» і медалямі.

Першы верш Мікалая Кругавых «Взвейся, песня» надрукаваны ў газеце «Тревога» ў 1948 годзе. Аўтар раманаў «Честь ярма не приемлет», «Где не ждут тишины», «Дорога в мужество», аповесці «Не ради славы», «Звезды во мгле» і інш.



У сааўтарстве з Ф. Коневым напісаў сцэнарый мастацкага фільма «Абочына».

Светлая памяць пра Мікалая Пятровіча Кругавых, пісьменніка, сумленнага працаўніка, шчырага добразычлівага чалавека, назаўсёды застанецца ў памяці тых, хто жыў і працаваў разам з ім.

**Саюз пісьменнікаў Беларусі**

Пятро ПРЫХОДЗЬКА

# КАЗАК НА СВІСЛАЧЫ

***Гэты верш быў напісаны і прысвечаны Мікалаю Пятровічу Кругавых задоўга да яго смерці. Але воляй рэдактара «Вячэрняга Мінска» ён быў забракаваны і адвергнуты. Таму вось даводзіцца друкаваць твор ужо з прысвячэннем памяці баявога сябра. Як гэта ўсё горка і балюча.***

***Аўтар***

*Светлай памяці*
*М. КРУГАВЫХ*

Вярталіся ў свой край няблізкі
З вайны данскія казакі.
Адзін спыніўся каля Мінска,
Ўсе прапусціўшы цягнікі.

Бывалы воін, родам з Дона,
Застаўся ў нашых
жыць краях.
Яго ў цішы старога дома
Тут стрэла дружная сям'я.

І прывяла ў сталіцу вулка
На Свіслач у святло зары,
Дзе партызанскай
славай гулка
Звінелі стромкія бары.

Сам ён не ў бляску кумачовым
Чын старшыны ў баях здабыў:
Пад Крычавам і Рагачовам
Наводчыкам гарматы быў.

Сваёй каханай воін статны,
Унук данскога казака,
Адважна, як на полі ратным,
Сказаў: — Вось вам мая рука!

Больш ні на крок
з тае сустрэчы
Ён ад яе не адступаў.
Здалёку бацька, як на сечы,
Сыноўні шлюб благаслаўляў.

Любові дрэва пачынала
З малой галінкі разрастаць.
Зямля, якая ў строй прымала,
Змагла другой
радзімай стаць...

Шмат год з прапіскаю
нязменнай
Пражыў з сям'ёю
ў Мінску ён.
І сёння хваляй белапеннай
Дон Свіслачы адбіў паклон.

*25 жніўня 1993 г. —*
*11 лютага 1994 г.*

# АПАНТАНЫ ДОЙЛІДСТВАМ

***7 лютага 1994 г. на 48-м годзе жыцця раптоўна памёр нястомны даследчык гісторыі архітэктуры, аўтар вялікай колькасці прац, прысвечаных дойлідству і мастацтву Беларусі, Юрый Аляксандравіч Якімовіч.***

Архітэктура... Яна як карона духу горада, краю, нацыі. Першае, што сустракае нас урачыстым арганам вежаў у кожным гістарычным месцы, дзе жыве спрадвеку чалавек, — узнёслыя рытмы архітэктуры.

Менавіта архітэктуру абраў ён сэнсам і праграмаю свайго жыцця. Яе вывучэнню і прапагандзе, абароне ад варварства, даследаванню яе нялічаных страт аддаў ён сваё натхненне. За 47 год, адпушчаных лёсам, паспеў ён многае, але многае і не паспеў.

Заўчасная страта... Ці не занадта часта скаланаюць нашы сэрцы гэтыя няўмольныя словы? Для беларускай гістарычнай навукі, якая трагічна не паспявала за разбуральнай стыхіяй часу, страта такога чалавека — заўчасная ўдвая.

Пасяліўшыся ў 1986 г. у Віцебску, Ю. Якімовіч мо з першага дня арганічна ўпісаўся ў толькі што народжаны рух за абарону і адраджэнне гістарычнае спадчыны 1000-гадовага горада, рух, які паклаў пачатак дзейнасці клуба «Узгор'е». Да крыўды вузкае кола трапяткіх і ўлюбёных у гісторыю свайго краю сэрцаў. А вакол — непрабіўныя муры раўнадушша, а то і непрыхаванай нянавісці да знакаў мінулага. Нацыяналісты, змоўшчыкі, агенты ЦРУ — як толькі ні называлі іх...

Яго з'яўленне — у арэоле аўтарытэту кандыдата архітэктуры, аўтара шматлікіх доследаў, за плячыма якога была работа ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН, у выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя» — было знакам самой Надзеі. Гэта быў моцны аргумент на карысць ідэі. Аб'яднанне «ўзгорцаў» набывае вагу, навуковую аргументацыю пастулатаў зберажэння і адраджэння горада. Чарада яго публікацый у друку, лекцыі, шматлікія сустрэчы з моладдзю, удзел у канферэнцыях і сходах краязнаўцаў сталі арганічнай часткай асветніцкай дзейнасці «Узгор'я».

У педагагічным інстытуце, на мастацка-графічным факультэце, дзе ён выкладаў гісторыю мастацтва, мо ўпершыню архітэктура набывае свайго сапраўднага «прапаведніка».

Асаністы, знешне спакойны і ўпэўнены ў сабе, з нейкім непаўторным знакам патомнай інтэлігентнасці і высакародства, Ю. Якімовіч хутка стаў арганічнай часткай культурнага жыцця горада. Нешта да яго вабіла. На сходах яго атуляла моладзь. І зусім нечаканым было з'яўленне ва ўжо быццам бы акрэсленым Якімовічу, вучоным, даследчыку, лектару, — мастака. Першая персанальная выстава жывапісу здзівіла і зачаравала. То была зноў архітэктура, знаёмыя да болю рысы роднае зямлі, але што ўражвала найперш — самавітая, арганічна Якімовічава шчырасць. Нейкая асаблівая чысціня, каларыстычная цнатлівасць, празрыстасць паветра, што атуляе знаёмыя архітэктурныя формы на яго палотнах.

За два дзесяткі гадоў Юрый Якімовіч напісаў больш за паўтысячы навуковых артыкулаў, дзесяткі доследаў, прысвечаных аналізу мастацка-гістарычных рысаў дойлідства розных часоў, цэлы тузін кніг і буклетаў. Яго аўтарытэт азначаны ў многіх энцыклапедычных выданнях, сярод якіх — «Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі», «Гісторыя мастацтва», «Энцыклапедыя архітэктуры Беларусі». Ім даследавана драўляная архітэктура Палесся, спадчына мастакоў Напалеона Орды і Іосіфа Пешкі. Напісаны капітальны том «Дойлідства Беларусі XVI—XVII стст.». Ён адзін з аўтараў выдадзенага ў Францыі альбома «Дрэва ў архітэктуры і скульптуры славян».

Апошняя яго кніга «Прагулкі па зруйнаваным горадзе», што мелася быць выдадзеная Віцебскай праваслаўнай епархіяй, творцу свайго жывым не ўшанавала...

Чаму, шукаючы неўзараную глебу для свайго няўрымслівага сэрца, ён абраў менавіта гэты /мо больш за іншыя скалечаны забыццём/ горад?

Але дзякуй, дарагі Юрый Аляксандравіч, што ты наведаў нас, што быў так блізка побач. Мо калісь і паўстане з праху былая веліч Віцебскіх званіц? Калі гэта наканавана Віцебску, будзем верыць у тое, абавязкова адаб'ецца рэхам у іх пераззвоне і тваё імя...

**Алесь МЕМУС**

**P. S. Да спачувальных слоў далучаюцца ўсе сябры віцебскага клуба «Узгор'е».**

Аб'ява

**БЕЛАРУСКАЯ АКАДЭМІЯ МУЗЫКІ**

**АБ'ЯЎЛЯЕ КОНКУРС**

на замяшчэнне пасад прафесарска-выкладчыцкага састава /для тых, хто мае мінскую прапіску/:

— кафедра аркестравага дырыжыравання
прафесар — 1,
дацэнт — 0,25 ст.
— кафедра опернай падрыхтоўкі
прафесар — 1
— кафедра баяна, акардэона
прафесар — 1
— кафедра скрыпкі
прафесар — 1
— кафедра музычнай педагогікі, гісторыі і тэорыі выканаўчага мастацтва
прафесар /спецыялізацыя: методыка выкладання скрыпкі/ — 1
— кафедра камернага ансамбля
дацэнт — 1
— кафедра опернай падрыхтоўкі
загадчык кафедры /узрост не старэй за 65 гадоў/ — 1
— кафедра спеваў
дацэнт — 1

Тэрмін падачы заяў — адзін месяц з дня апублікавання. Заявы і дакументы, згодна Палажэнню аб конкурсах, накіроўваць на імя рэктара на адрас: 220030, г. Мінск, вул. Інтэрнацыянальная, 30
Даведкі па тэл.: 27-49-42, 26-06-70

**Калектыў Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы выказвае глыбокае спачуванне мастацкаму кіраўніку Валерыю Мікалаевічу Раеўскаму з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці маці.**

**Міністэрства культуры і Саюз тэатральных дзеячаў Беларусі выказваюць спачуванне мастацкаму кіраўніку Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Валерыю Мікалаевічу Раеўскаму ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю маці.**

**ЛіМ**

*Заснавальнікі:*
*Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь*

*Выходзіць з 1932 года*

*Газету рэдагавалі*
*Х.Дунец (1932-35)*
*І.Гурскі (1935-41)*
*А.Куляшоў (1945-46)*
*М.Горцаў (1947-49)*
*П.Кавалёў (1949-50)*
*В.Вітка (1951-57)*
*М.Ткачоў (1957-59)*
*Я.Шарахоўскі (1959-61)*
*Н.Пашкевіч (1961-69)*
*Л.Прокша (1969-72)*
*Х.Жычка (1972-76)*
*А.Асіпенка (1976-80)*
*А.Жук (1980-86)*
*А.Вярцінскі (1986-90)*

*Галоўны рэдактар*
*Мікола ГІЛЬ*

*РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:*
*Святлана БЕРАСЦЕНЬ,*
*Андрэй ГАНЧАРОЎ (першы намеснік галоўнага рэдактара),*
*Юрась ЗАЛОСКА,*
*Міхась ЗАМСКІ,*
*Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,*
*Барыс ПЯТРОВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара),*
*Юрась СВІРКА*

*АДРАС РЭДАКЦЫІ:*
*220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.*

*ТЭЛЕФОНЫ:*
*прыёмная рэдакцыі 332-461*
*намеснікі галоўнага рэдактара 332-525, 331-985*
*аддзелы:*
*публіцыстыкі 332-525*
*пісьмаў і грамадскай думкі 331-985*
*літаратурнага жыцця 332-462*
*крытыкі і бібліяграфіі 332-204*
*паэзіі і прозы 332-204*
*музыкі 332-153*
*тэатра, кіно і тэлебачання 332-153*
*выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў 332-462*
*навін 332-462*
*мастацкага афармлення 332-204*
*фотакарэспандэнт 332-462*
*бухгалтэрыя 268-640*

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдыкцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

*Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах*

*Друкарня "Беларускі Дом друку"*

*Індэкс 63856. Наклад 19.000.*
*Нумар падпісаны 17.02.1994 г.*

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

